Мастак Яўген Ціхановіч

*10 сьнежня 1994 г. старшыні клюбу «Спадчына», ганароваму сябру рэдкалегіі «Полацак» Анатолю Беламу споўнілася 55 гадоў. Рэдакцыя часопіса віншуе Анатоля Белага зь днём народзінаў і зычыць яму здароўя, моцы, посьпехаў на шляху Адраджэньня Бацькаўшчыны.*

# Polatsak




All correspondence should be addressed to:
"Polacak"
3247 West 56 St.
Cleveland, OH 44102,
USA
tel. (216) 631-8816


Прозьвішчы падпішчыкаў і ахвярадаўцаў рэдакцыя будзе публікаваць у часопісе.



# Зьмест

**Уладзімер Караткевіч**. * * * Віншую Цябе, Беларусь.... 3

*Наша гісторыя*

**Васіль Пуцько**. Полацак у гісторыі старажытнага мастацтва.... 4

*З архіваў КДБ*

**Уладзімір Міхнюк, Якаў Паўлаў**. Як зьнішчалі генафонд беларускай нацыі.... 9

**Уладзімір Адамушка.** Шляхі жыцьця Язэпа Гаўрыліка.... 17

*Пад бел-чырвона-белым сьцягам*

**Анатоль Грыцкевіч**. Як сьвяткавалі дзень Аршанскай перамогі.... 23

**Анатоль Белы**. У гонар слуцкіх паўстанцаў.... 27

*Згукі Бацькаўшчыны*

**Гаворыць Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь**.... 28

**Інфармацыйнае пісьмо**.... 29

*Памяць зямлі*

**Анатоль Старадарожскі**. Памяці Аўгена Калубовіча.... 30

*Вобразы Бацькаўшчыны*

**Сьвятлана Белая**. «Бітва...» Генрыха Ціхановіча.... 34

*Нашае слова*

**Міхась Кавыль**. Із агню ды ў полымя.... 36

**Андрэй Чэмер**. Зь лягерных вершаў.... 44

*Далёкае і блізкае*

**Сьвятлана Менская** Спадчына «Спадчыны».... 46

**Зварот удзельнікаў вечара, прысьвечанага 10 годзьдзю клюбу «Спадчына»**.... 49

*Рэцэнзіі і анатацыі*

**Леанід Лыч**. Юбілей «Спадчыны».... 51

*З эмігранцкіх выданьняў*

**Антон Адамовіч**. Лірнік краіны ветлай.... 55

**Press Release**.... 59

**З жыцьця беларускай эміграцыі**.... 62

На развароце: **Генрых Ціхановіч**. «Бітва пад Оршай»

На другой бачынцы вокладкі: **Яўген Ціхановіч**. Партрэт старшыні клюбу **«Спадчына»** Анатоля Белага.

На трэцяй і чацьвёртай бачынках вокладкі: **Алесь Цыркуноў**. Ілюстрацыі да альманаху «Спадчына «Спадчыны«

* * *

## Уладзімір Караткевіч

Віншую Цябе, Беларусь
Зь вялікім 1000-годзьдзем!
Няхай скланяецца хлус,
Бо праўда жыве ў народзе!

т т
т

Мая.
Не мая?
Мая!
Вам спрэчкай мяне не здолець.
Бо праўды ад маскаля
Ня мушу пачуць ніколі!
Гісторыю нашу ўшчэнт
Разьнеслі. У сілы правы
І неякі сляпы дацэнт
Адмовіў маю дзяржаву.
Казаў ён: «Дзе-б вы былі,
Калі-б не прыйшоў кастрычнік?»
Казаў, што на маскалі
Трымаўся шчэ наш язычнік.
Ды толькі ня ўцяміў ён,
Што іншыя нашы крылы,
Яшчэ ад часоў плямён,
Яшчэ ад часоў Ярылы!
У гісторыю кіну зрок
І бачу як князь пры сконе
У сыноў сваіх браў зарок
Высока трымаць Пагоню!
І жыў гэты герб сьвяты,
І жыць яшчэ доўга мусіў,
Пакуль маскалі на ты
Ня лезьлі да Беларусі.

т т
т

*Ад рэдакцыі: Гэты верш рэдакцыя часопіса «Полацак» атрымала ад Мікалая Каната са Жлобіна, які сядзеў сумесна з Ларысай Геніюш у ГУЛАГу.*

*Верш друкуецца ўпершыню.*

# НАША ГІСТОРЫЯ

## Полацак у гісторыі старажытнарускага мастацтва

Васіль Пуцько

*(Частка першая)*

Адказаць на пытаньне, якую ролю адыгрываў Полацак у гісторыі духоўнай культуры Русі, лягчэй усяго аднім словам: вялікую. Разам з тым ня так лёгка ўявіць карціну разьвіцьця сярэднявяковага полацкага мастацтва з усімі яго лакальным асаблівасьцямі, а таксама ўзроўнямі, якія адлюстроўвалі ўмовы сацыяльных заказаў і эстэтычныя густы розных пластоў фэўдальнага грамадзтва. Можна доўга расказваць пра няпоўныя зьвесткі аб дадзеным пэрыядзе, пра некаторую іх фрагментнасьць. Аднак нельга забываць, што большая частка таго, што сёньня мы маем, уведзена ў навуковы разгляд навукоўцамі пасьлякастрычніцкага пэрыяду, галоўным чынам, нашымі сучасьнікамі. Асабліва трэба адзначыць вялікую заслугу архэолягаў, якія адчынілі дзьверы ў назаўсёды зьніклы сусьвет. (Варта параўнаць паведамленьне Нестара Кайгародава аб Полацку й яго царкоўна гістарычных помніках [1] у часопісе «Светильник» за 1914 г. са зьместам манаграфіі аб старажытным Полацку, напісанай Г.В.Штыхавым).

Апошняе дзесяцігодзьдзе прынесла яшчэ больш цікавыя знаходкі. У іх ліку – залатыя брасьлеты X ст.[3] Значэньне Полацка як стольнага горада ў гістарычнай навуцы зьяўляецца даўно ўсьвядомленым. Таму, зразумела, можна прыпушчаць таксама ролю горада як значнага мастацкага цэнтру.

Напісаць зараз гісторыю мастацтва старажытнага Полацка ў агульным ужо магчыма, але пры умове запаўненьня «белых плям» высілкамі археолягаў і мастацтвазнаўцаў, асабліва там, дзе патрэбна сканцэнтраванасьць і ўжываньне шырокага параўнаўчага матэрыялу.

Найбольш пасьлядоўна праглядаецца ў Полацку разьвіцьцё мастацкіх рамёслаў. Знаходкі каменных ліцейных формаў для адліўкі трохпацерных завушніцаў, манэтападобных, крынападобных падвесак, крыжыкаў-цельнікаў, гузікаў, пярсьцёнкаў у пластах XIII ст. сьведчаць аб тым, што тут была добра наладжана ліцейная справа. Ліцейныя формы даюць уяўленьне аб прадукцыі мясцовых майстраў [4]. Яна не такая разнастайная як у Кіеве [5] і крыху адрозьніваецца ад узораў зь Серенску [6] і Ноўгарада, хаця ўсё-ж бліжэй стаіць да паўночных традыцыяў. Гэта найбольш бачна ў характары геаметрычнай арнамэнтыкі. Частка полацкіх формаў імітацыйныя, для тонкасьценнага ліцьця, якое ўваходзіць у практыку мясцовых майстраў з пачатку XIII ст.

Полацкія майстры валодалі ўсімі мэтадамі апрацоўкі каляровых і высакародных мэталаў, якія атрымалі распаўсюджваньне ў Старажытнай Русі. Найбольш яркімі ўзорамі майстэрства зьяўляюцца ювелірныя вырабы, большасьць якіх знойдзена ў Верхнім замку. Нягледзячы на іх разнастайнасьць, яны ўспрымаюцца як дастаткова кампактная група, на фоне якой вылучаюцца крывіцкія скроневыя кольцы X—XI стст. і сямілопасныя скроневыя кольцы зь віціцкіх вобласьцяў.

Зь пярсьцёнкаў, з аднаго боку, могуць быць абасоблены характэрныя для ўсіх славянскіх плямёнаў пласьцінчатыя (XIII ст.) пярсьцёнкі, а з другога — пярсьцёнкі з дробнымі шклянымі устаўкамі, замацаванымі на паверхні выраба з дапамогай абадка. Узорам тонкай ювелірнай працы служаць білонавы залачоны пярсьцёнак з полым шасьцікутным шчатком, упрыгожаны выгравіраваным малюнкам птушкі. (Знойдзены ў пласту 1130-х гг.)[8] Падобныя знаходкі зьвязаны з Кіевам і Прыдняпроўем [9], але гэта не вырашае пытаньня аб паходжаньні полацкай знаходкі, паколькі аналягічныя пярсьцёнкі мелі шырокае распаўсюджваньне ў Старажытнай Русі. (Ноўгарад, Старая Разань, Падолія). Вядомы яны таксама на Балканах, дзе сустракаюцца сярод сербскіх магільнікаў з XII ст. [10] На сёньняшні дзень праведзена толькі сыстэматызацыя пярсьцёнкаў з шчытком, якія маюць чарневыя відарысы [11]. Аднак і тут ня ўсё зразумела і пытаньне лакалізацыі ў большасьці выпадкаў па-ранейшаму застаецца адкрытым. [12]

У Полацку, у пабудовах сярэдзіны XIII ст. знойдзены рэдкі тып бронзавага кальца з шчытком, на якім тры выступы. [13] Вядома, што гэты пэрыяд у разьвіцьці старажытнарускай мэталапластыкі адзначаны зьяўленьнем новых мадэляў, аналёгіі якіх прыходзіцца шукаць ужо не на Балканах, а на тэрыторыі расьсяленьня заходніх славянаў. Гэты працэс узаемадзеяньня розных культур, відаць, ня мог абыйсьці бокам Полацак.

У палачан у XIII ст., як і ў вяцічаў, відаць, карысталіся попытам плястынчатыя шырокасярэдзінныя брасьлеты зь незамкнутымі канцамі (тупымі або загнутымі), упрыгожаныя ўзорамі зь зігзагападобных лініяў. [14] Таксама быў вядомы трайны віты брасьлет зь петлепадобнымі канцамі, зроблены з алавянага дроціку. Такія-ж самыя брасьлеты былі распаўсюджаны ў Ноўгарадзе, у ноўгарадзкіх славянаў, крывічоў і вяцічаў.[15] Існавалі яшчэ кругла-дроцікавыя і плоска-выпуклыя ў сячэньні брасьлеты, з тупымі і вострымі канцамі. Параўноўваючы гэтыя вырабы зь лентападобным брасьлетам куршскага тыпу, з чаканным узорам (творы канца X ст.) можна бачыць, што новыя мадэлі, якія зьявіліся два стагодзьдзі пазьней, так і ня здолелі выцесьніць традыцыйныя формы.

Вырабы шырокіх алавяных брасьлетаў зь цісьненай пляцёнкай і алавяна-сьвінцовых, адлітых у імітацыйнай форме ( з радамі расьлінных завіткоў), як і брасьлеты, знойдзеныя у 1957 г., [16] мажліва, засталіся у стадыі экспэрыменту XII—XIII стст.. (У гэты час падобныя брасьлеты ўваходзяць ва ўжытак у Кіеве і Ноўгарадзе). [17]

Яшчэ адну групу мастацкіх вырабаў складаюць манэтападобныя жаночыя падвескі, якія былі знойдзены ў слаях XII—XIII стст. Іх паходжаньне можна зьвязаць з распаўсюджваньнем паганскіх вераваньняў. Менавіта на гэта ўказвае алавяная падвеска XII ст., з рэльефнай галоўкай быка [18]. Гэты малюнак знаходзім і на бронзавых

амулетах з тэрыторыі радзімічаў—в. Власовічы каля Чарнігава. [19] Паколькі культ быка ва ўсходніх славянаў не праглядаецца, трэба падумаць аб замежным паходжаньні гэтых амулетаў. Вядома, што культ быка быў з даўніх часоў распаўсюджаны на Каўказе, што знайшло адлюстраваньне ў раньнесярэднявяковай скульптуры [20]. (Відаць, дзякуючы гэтаму культу пазьней эмблема галавы быка выкарыстоўвалася ў якасьці эмблемы малдаўскімі ваяводамі ў больш позні пэрыяд. [21] Большая-ж частка полацкіх падвесак 1240-1250 гг. звычайна мае арнамэнтальную разетку: васьміпялёсткавая кветка, апрамленая абадком з двух ніцяў. Таксама сустракаецца другі варыянт: разеткі зь іншай колькасьцю пялёсткаў, якія ў старажытнасьці лічыліся сьвяшчэннымі. (7, 12) Солярная сыболіка гэтай арнамэнтальнай схемы несумненна. Аднак адказаць упэўнена на пытаньне, ці маем мы ў дадзеным выпадку паганскія перажыткі або ўпрыгожаньне мае традыцыйны дэкаратыўны арнамэнт, цяжка. Як вядома, у той-жа пэрыяд зьяўляецца тып падвескі з выявай расквітнелага крыжа, які добра ўпісаны ў абадок із ложнай зерні. Недарагі мэтал, зь якога выкананы ўказаныя рэчы, падкрэсьлівае сацыяльную сферу іх ўжываньня. На гэта таксама ўказвае крутарогая луньніца зь сіняй эмальлю, знойдзеная ў пласьце 1230-х гг., але, мажліва, больш ранейшага паходжаньня.

Што датычыцца рэчаў рэлігійнага культу, вылітых з мэталу, то, відаць, адной з самых арыгінальных знаходак ёсьць медная створка іконкі-трыпціху зь вялікагаловымі рэльефнымі фігуркамі сьвятых на абодвух старонках. [22] Яе стылістычныя прыкметы ўказваюць на рубеж XII—XIII стст. і не выключаюць мясцовага паходжаньня. Ва ўсякім выпадку гэта ня ўзор сэрыйнага ліцьця—вырабы кіеўскіх майстраў, (у адрозьненьне ад крыжоў-энкаліпсаў, якія знойдзены на тэрыторыі Полацкай зямлі). [23]

Полацак застаецца адзін зь нямногіх стольных гарадоў, зь якім цяжка зьвязаць вызначаную групу вытворчай тарэўтыкі, нягледзячы на тое, што тут былі майстры па золату і срэбру. Гістарычна з Полацкам зьвязаны толькі залаты крыж Еўфрасіньні Полацкай, выкананы у 1161 г. майстрам Лазарам Богшам з золата й упрыгожаны каштоўнымі перагародчатымі эмалямі [24] Асаблівасьці выкананьня эмаляў даюць падставу параўнаць крыж з вырабамі адной зь кіеўскіх майстэрняў. Эліта полацкага грамадзтва ў трэцяй чвэрці XII ст. захоўвае сувязь зь Кіевам і карыстаецца паслугамі кіеўскіх майстраў вельмі высокага прафэсыйнага узроўню. Наўрад ці трэба ўспрымаць крыж 1161 г. як зусім ізаляваную зьяву ў мастацкім жыцьці Полацка, якая ня выклікала ніякага водгука ў творчасьці мясцовых майстраў, з спадчынай якіх мы, трэба прызнацца, знаёмыя вельмі мала.

Аб тым, што мастацкая творчасьць уваходзіла літаральна ва ўсе сферы побыту сярэднявяковага Полацка, гавораць знаходкі арнамэнтаваных чаравікоў першай паловы XIII ст. Чаравікі часамі ўпрыгожваліся даволі мудрагелістымі вышыўкамі з расьлінных узораў (звычайна жаночыя чаравікі). Вышывальныя швы ў некаторых выпадках знаходзяць аналягі на абутку з Пскова. Можна ўявіць наколькі прыгожымі былі вышытыя тканіны пабытовага й асабліва царкоўнага прызначэньня. Любоў да арнамэнтаваньня ў полацкім мастацтве атрымала адлюстраваньне ў вырабах з косьці і дрэва. У драўлянай разьбе XIII ст. можна сустрэць характэрны тып пляцёнкі, вядомы з афармленьня кніга ў таго часу. У Полацку выраблялі таксама шкляныя брасьлеты і



бусы, вырабы з бурштыну (крыжыкі, пярсьцёнкі).

Полацкія майстры выконвалі свае вырабы на замову і з разьлікам на масавы побыт. Але, вядома, яны не маглі задаволіць запатрабаваньні гаражан, асабліва з вышэйшых пластоў фэўдальнага грамадзтва. Тут рабілі сваю справу разьвітыя гандлёвыя сувязі Полацка. Асноўным прадметам імпарта было срэбра. Разьвіцьцё манумэнтальнага будаўніцтва ў XII—XIII стст. выклікала патрэбнасьць і ў каляровых мэталах (для пакрыцьця збудаваньняў). Частка прадукцыі вывозілася зь Кіева, але разам з тым траплялііся вырабы бізантыйскіх і заходніх майстраў. Іх класыфікацыю нельга пакуль што лічыць закончанай, і таму прыходзіцца пакуль што гаварыць толькі адносна агульнай тэрыторыі Полацкага княства [26], якое ўлучала Наваградак [27]. У якой ступені наваградзкі імпарт быў істотным для Полацка, казаць яшчэ зарана.

Праглядаючы агульныя тэндэнцыі разьвіцьця полацкага мастацкага рамяства, можна казаць, што ў агульным яго прадукцыя мае прыкметы, якія характэрны для старажытнарускіх майстраў наогул. У некаторых выпадках вызначаюцца мясцовыя рысы, і адной зь іх зьяўляецца захаваньне традыцыйных відаў упрыгожваньняў амаль да сярэдзіны XIII ст. —часу, калі мастацкае рамяство дасягнула свайго роськвіту. Мажліва, што з накапленьнем новых матэрыялаў прыдзецца інакш разглядаць мастацкае жыцьцё горада больш раньняга пэрыяду, вядомага пабудовай вялічных храмаў, дзякуючы якім Полацак займае па праву надзвычайнае месца ў гісторыі мастацтва Старажытай Русі. Але аб гэтым мы раскажам наступным разам.

*Бібліяграфія*


1.Кайгородов Н. Полотск и его церковно-исторические памятники /Светильник, 1914, №2, с.7-37.

2. Штыхов Г.В. Древний Полоцк. IX—XIII вв.—Минск: Наука и техника, 1975.

См. его же: Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.) Минск: Наука и техника, 1978.

3. Штыхаў Г. З часоў Рагнеды //Беларусь, 1985, №2/554), с. 18-19.

4. Штыхов Г.В. Древний Полоцк, с. 63-64, табл. 32

5. Ср.: Каргер М.К. Древний Киев.—М. Л.: Изд. АН СССР, 1958, т.I, табл. XLV-LVII.

6. Никольская Т.Н. Литейные формочки древнерусского Серенска // Культура средневековой Руси. —Л.: Наука, 1974, с.40-46.

7. Седова М.В. Ювелирные изделия древнего Новгорода /X—XУвв./. —М.: Наука, 1981, с. 37-42.

8. Штыхов Г.В. Древний Полоцк, с. 67, рис. 33, №23.

9. Собрание Ханенко Б.И. и В. Н. Древности Приднепровья.—Киев, 1902, вып. У. с. 48-49, табл.XXIII;

Макарова Т.И. Черневое дело Древней Руси. —М.: Наука, 1986, с. 128-133 (№ 47-105).

10.Марјановиħ-Бујовиħ Г. Трньяне /Српска некропола/ крај XI—почетак XIII века/. —Београд, 1984, с. 91-93

11. Макарова Т.Н. Черневое дело Древней Руси. С. 39-48.

12. Гэтаму, у прыватнасьці, перашкаджае практыка рэпрадукцыі вырабаў и выглядзе схэматычных малюнкаў, а не фотарэпрадукцыяў з дакладнымі выявамі

13. Штыхов Г. В. Древний Полоцк, С. 67, рис. 33, №16.

14. Там-жа. с. 67, мал. 33, №22, ср.: Никольская Т.Н. Земля вятичей. 1981, с. 228-231.

15. Ср.: Седова М. В. Юверлирные изделия

древнего Новгорода. с. 94-97.

Никольская Т.Н. Земля вятичей, с. 228, рис, 84.

16. Штыхов Г.В. Древний Полоцк, с. 67, 69, рис. 34, №56.

17. См. Седова М.В. Ювелирные изделия древнего Новгорода. с. 116-118.

18. Штыхов Г.В.Древний Полоцк. с. 69, рус. 34, №21.

19. История русского искусства. —М.Изд. АН СССР, 1953, т.1,с. 68.

20. См.Аладашвили Н.А. Монументальная скульптура Грузии / Фигурные рельефы У—XI веков, —М. :Искусство. 1977, с. 20, илл.16, 17.

21. См. Istoria altelor plastice in Romania. - Bucuresti, 1968, vol. 1, fig. 267, 371-374.

Thedorescu R. Un milenie de arta la Dunarea de job (400-1400). - Bucuresti, 1976, fig. 271, 272.

22. Штыхов Г.В. Древний Полоцк. с. 71, рис. 34, №7.

23. См: Алексеев Л.В. Мелкое художественное литье из некоторых западно-белорусских земель /кресты и иконки Белоруссии/. //Советская археология, 1974, №3, с. 205-209, рис. 1-2.

24. Алексеев Л.В. Лазарь Богша—мастер-ювелир XII в. // Советская археология. 1957, №3, с. 224-244;

Высоцкая Н.Ф. Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларуси XII—ХУIII стст. Мн., Беларусь, 1984, №6.

25. Макарова Т.И. Перегородчатые эмали Древней Руси. —М.: Наука, 1975, с.70-73, 95, 118-121.

26. См.: Даркевич В.П. Произведения западного художественного ремесла в Восточной Европе /X—XIУ/.—М.: Наука, 1966 (САИЕ I—57) с. 27-29.

27. См.:Гуревич Ф.Д. Древний Новогрудок /посад—окольный город/, —Л. Наука, 1981, с. 148-156.





# З архіваў КДБ

## Як зьнішчалі генафонд беларускай нацыі

Уладзімір Міхнюк
Якаў Паўлаў

Страшэнныя страты панесла ў 1937—1938 гг. навуковая і творчая інтэлігенцыя. Згодна «зусім сакрэтнай» запісцы наркома НКУС А. Наседкіна ад 25 чэрвеня 1938 г., у ЦК КП(б)Б *«праведзенымі арыштамі ў 1937—38 гг. Акадэміі навук Беларусі нанесены значны ўдар»*. Далей ішла расшыфроўка:

*«За гэты пэрыяд у Акадэміі арыштавана 57 чалавек агентаў варожых разьведак, трацкістаў, правых і нацыянал-фашыстаў»*. Дбайны чэкіст (у канцы 1938 г. ён будзе арыштаваны і ў пачатку 1939 г. расстраляны) на гэтым не супакойваў сябе: *«Але варожыя элементы ў Акадэміі навук яшчэ канчаткова ня зьнішчаны. У сучасны момант у Акадэміі працуюць 22 удзельнікаў антысавецкага падпольля(трацкісты, правыя, нацфашысты й агенты іншаземных разьведак), якіх мы распрацоўваем (фабрыкацыя кампрамата— аўт.). Там працуюць таксама 80 чалавек, якія зьяўляюцца жонкамі, мужамі і блізкімі сваякамі (дзяцей, братоў, сясьцёр) асоб, рэпрэсаваных органамі НКУС за антысавецкую дзейнасьць. Да сучаснага моманту ў Акадэміі працуюць 40 навукоўцаў паходжаньнем з Польшчы, Нямеччыны, Літвы, Латвіі й іншых краін, частка зь якіх прыехала ў СССР пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі»* Безумоўна, зыходзячы з прынцыпу калектыўнай адказнасьці, усіх, хто быў на ўліку ў органах НКУС, напаткаў трагічны лёс. У цэлым было рэпрэсавана 26 акадэмікаў і 6 членаў-карэспандэнтаў. У 1937-1938 гг. былі расстраляны прэзыдэнты Акадэміі навук П.В. Горын, І. З. Сурга, акадэмікі Я.М. Афанасьеў, Т.Ф. Домбаль, П.Я. Панкевіч, А. І. Пятровіч, Б.А.Тарашкевіч і іншыя.

Месяцам раней, у чэрвені 1938 г. А.Наседкін накірава ў у Маскву «зусім сакрэтную» інфармацыю *«Аб варожай рабоце ў Наркамасьветы й аб засьмечаньні настаўніцкіх кадраў»*. У ёй адзначалася, што органамі НКУС выкрыты ўдзельнікі антысавецкага падпольля: наркомы асьветы Дзьякаў, Чарнушэвіч, Варончанка, Піваварaў іх намесьнікі: Шаткін, Бяброўніцкі, Савесьцьянчык і інш. Менавіта яны, а не хто-небудзь іншы стварылі антысавецкія падпольныя ячэйкі ў ВНУ і сярэдніх навуковых установах Менску і на перыфэрыі —Віцебску, Магілёве, Гомелі, Мазыры, Слуцку, Мсьціслаўлі, Воршы, Рагачове й іншых гарадах. Напрыклад, у Менскім пэдінстытуце з 83 выкладчыкаў на 49 маецца кампрамат. Што датычыць настаўнікаў г. Менска, то зь іх агульнай колькасьці 1057 чалавек зьяў-



Заканчэньне. Пачатак у № 3(33)—№7-8(37-38).

*ляюцца антысаветчыкамі. Да таго-ж, у школах сталіцы рэспублікі працуе 84 «закардоньнікаў»*, 29 сыноў і дачок службоўцаў рэлігійнага культу, 35 чалавек паходжаньнем зь сем'яў былых генералаў, жандармаў, былых чыноўнікаў і гандляроў, 5 чалавек—былых эсэраў і бундаўцаў. Такі-ж падрабязны расклад даваўся і па ваб-ласьцях: у Віцебскай—111 настаўнікаў і выкладчыкаў ВНУ антысаветчыкі, у Палескай—274, у Гомелі і Гомельскім раёне —98 і г.д.

Ворагаў народу А. Наседкін «знаходзіў» нават сярод вучняў: *«у Мазырскім раёне ў Славабацкой няпоўнай сярэдняй школе вучань Панфіленка згуртаваў «дзіцячы калгас», на чале якога стаяў старшыня Ганчар, абраны таксама рахункавод Красюк, кладаўшчык Панфіленка, брыгадзіры й інш. У «калгасе ў агульнай колькасьці ўцягнута 22 вучняў»* [2].

У чарговай інфармацыі А. Наседкіна ў Маскву (ад 24 чэрвеня 1938 г.) вялася гутарка аб выяўленьні антысаветчыкаў і шпіёнаў сярод службоўцаў царквы і сэктантаў Беларусі. Адзначалася, што з 1445 маючыхся да рэвалюцыі культавых збудаваньняў на студзень 1937 г. засталося дзеючымі толькі 74. У полі зроку органаў НКУС знаходзілася каля 100 дзеючых сьвятароў, а таксама 300 асоб, якія ня мелі прыходу і зьнялі зь сябе рэлігійны сан. Называліся прозьвішчы сьвятароў, як найбольш заядлых антысаветчыкаў: Кульчыцкі, Гашкевіч, Вашчынскі, Левашоў, Дабрамыслаў, Аглобілін, Рабцоў, Бліноў. Апошні ў Беларусь прыехаў у 1935 г. нібыта па заданьню японскай разведкі і за кароткі час здолеў арганізаваць шпіёнска-паўстанцкую арганізацыю, у якую ўцягнуў больш за 100 службоўцаў рэлігійнага культу і кулакоў [3].

У 1938 г. была зроблена яшчэ адна спроба расправіцца з выдатнымі песьнярамі беларускага народу Я. Купалай і Я. Коласам, а таксама іншымі пісьменьнікамі. Такой мэтай задаўся П.К.Панамарэнка, які стаў у 1938 г. першым сакратаром ЦК КП(б) Б. У сваім лісьце на імя Сталіна ад 21 лістапада ён сцьвярджаў наступнае: *«Ворагі народу, дасягнуўшыя ў свой час партыйнага і савецкага кіраўніцтва, ставілі сваёй задачай адлучэньне Беларусі ад Савецкага Саюзу і ўтварэньне «самастойнай» беларускай дзяржавы пад пратэктаратам Польшчы. Дзеля гэтага яны мелі кваліфікаваныя кадры сярод часткі старой нацыянальнай інтэлігенцыі (настаўнікі, аграномы, дактары, артысты, пісьменьнікі)*

*Працавалі яны адмыслова. Мацёрых нацыяналістаў, «шчырых беларусаў» вербавалі і ўводзілі ў курс задач-ідэяў. Яшчэ не разбэшчаную моладзь яны выхоўваюць у накірунку асэнсаваньня самавыразнасьці беларускай мовы, ідэялізацыі «залатых стагодзьдзяў» беларускай дзяржаўнасьці, часоў, калі Беларусьсю кіравалі князі... Найбольш буйную нацыяналістычную работу правёў саюз «савецкіх» пісьменьнікаў Беларусі, які ідэйна ўзначальваюць дзесятак прафашысцкіх пісьменьнікаў у тым ліку вядомыя Я. Купала й Я.Колас. У гэтым саюзе бессаромнай крытыкай, паклёпамі, зьдзекамі, зьнявагай замардавалі не аднаго чэснага камуніста і беспартыйнага літаратара. Тут змагаліся з Савецкай уладай... Тут знаходзіўся цэнтр-штаб нацыянал-фашысцкай прапаганды»* [4]

Аблаяўшы тых, хто стаяў за разьвіцьцё нацыянальнай мовы і культуры, новы партыйны бос Беларусі рабіў кпіны з Я.Купалы за тое, што ён *«пусьціў крылаты выраз «пакуль жыве мова, жыве народ»*, у аснове якога ляжыць тэндэнцыя парваць усе сувязі



з рускімі. Вялікаму песьняру Панамарэнка прыпісваў песымізм, роспач, хандру, жаданьне паквітацца з жыцьцём. Ён супакойваў Сталіна тым, што мае намер *«павялічыць колькасьць рускамоўных школ»* і *«абапірацца на лепшую частку Саюзу пісьменьнікаў Беларусі», «рашуча ачысьціць літаратару ад твораў з нацыял-фашысцкай кантрабандай»*.

Адносна Купалы, Коласа, Глебкі, Броўкі, Крапівы, Бядулі, Вольскага й іншых сяб-раў «гэтай «магутнай кучкі»,—тлумачыў сакратар ЦК,— *«то маюцца шматлікія доказы выкрытых і арыштаваных ворагаў народу адносна іх сувязьзяў з польскай дэфензывай: супраць Купалы маецца 41 доказаў, большасьць зь якіх прамыя, Коласа—31, Крапівы —12 і г.д. НКУС запрасіў у Цэнтру «санкцыю на арышт Купалы і Коласа ўжо даўно, але яна пакуль што не дадзена»*. Панамарэнка вагаўся, што ў гэтых стасунках трэба рабіць з аўтарытэтамі беларускай літаратуры: альбо арыштаваць, альбо, улічываючы іх сьвядомасьць, *«душэўна пагаварыць, указаць на памылкі і даць магчымасьць «выкупіць сваю віну перад Савецкай уладай»* пачэснай работай. *«У адносінах да Я. Купалы і Я. Коласа я прашу Вас даць мне параду»*, зьвяртаўся ён да Сталіна. [5]

Відаць, у далейшым у Панамарэнкі ўсё-ж хапіла мужнасьці і смеласці, каб адмовіцца ад першапачатковых намераў не дазволіць аддаць у кіпцюры чэкістаў элітны генафонд беларускай нацыі. Як шуткавалі між сабой паэты у далейшым, іх ордэры на арышт былі заменены на ордэны.

Рэпрэсыйны каток падмінаў пад сябе ўсіх, хто трапляўся на яго шляху, у тым ліку і каманднa-палітычны склад Беларускай ваеннай акругі. Толькі за ліпень 1937 г. — сьнежань 1938 г. было арыштавана звыш 1500 вышэйшых і сярэдніх афіцэраў, пачынаючы з камандаючага ваеннай акругай І. П. Бялова і заканчваючы камандзірамі ўзводаў і загадчыкамі майстэрняў па рамонту зброі і баявой тэхнікі. [6] Адсутнасьць неабходнай колькасьці вопытных і добра падрыхтаваных каманьдзіраў усіх ступэняў зьявілася адной з прычын катастрафічнага паражэньня войск Заходняга фронту ў пачатку Вялікай Айчыннай вайны ,якая прынесла для беларускай нацыі вялікія выпрабаваньні.

У разгар «вялікага тэрору» 9 ліпеня 1937 г. на стол наркама НКУС СССР М.Яжова, а таксама сакратароў абкомаў, крайкомаў ЦК нацкампартыяў (так значылася ў дакумэньце—аўт.) лягло сакрэтнае рашэньне палітбюро ЦК УКП(б) ад 2 ліпеня за подпісам Сталіна. Яно мела кароткую назву «Аб антысавецкіх элементах». Падкрэсьлівалася, што вяртаючыся пасьля адбыцьця тэрмінаў высылкі ў паўночныя і сібірскія раёны былыя *«кулакі і забойцы зьяўляюцца галоўнымі пачынальнікамі ўсялякіх антысавецкіх і дывэрсыйных злачынстваў»*. На падставе гэтага органам НКУС усіх узроўняў ставілася задача ўзяць на ўлік такіх асоб.

Найбольш варожых неабходна *«без прамаруджваньня арыштаваць і расстраляць у парадку адміністрацыйнага правядзеньня іх справаў праз тройкі»*.

Менш актыўных трэба адправіць зноў у ППЛ. *«ЦК УКП(б) прапаноўвае ў пяцідзённы тэрмін прадставіць у ЦК персанальны склад створаных троек, а таксама колькасьць асоб, падлеглых расстрэлу, колькасьць тых, хто будзе высланы»*. [7]

Аператыўны загад наркома М.Яжова за №00447 ад 30 чэрвеня 1937 г. «удакладняў» і значна пашырыў сталінскую дырэктыву: арышту павінны падлягаць ня толькі былыя кулакі і забойцы, але й актыўныя ўдзельнікі

антысавецкіх паўстаньняў, белага руху, кадры іншых палітычных партыяў, дарэвалюцыйныя чыноўнікі, жандармы, рэпатрыянты, удзельнікі існуючых «падпольна-паўстанцкіх арганізацыяў, фашысцкіх шпіёнак дэверсыйных і тэрарыстычных контррэвалюцыйных фарміраваньняў. Тых, хто падлягаў арышту, Яжоў рэкамендаваў падзяліць на дзьве катэгорыі. Аднесеных да першай катэгорыі неабходна тэрмінова арыштаваць і пасьля разгляду іх справаў на пасяджэньні троек—расстраляць. Асобы, арыштаваныя па другой катэгорыі, высылаюцца ў ГУЛАГі на тэрмін ад 5 да 10 гадоў.

Згодна пададзеных у Маскву ўлікавых зьвестак, цэнтр даслаў на месцы лічбы для арыентацыі на правядзеньне рэпрэсыяў. Па Беларусі да 1-й катэгорыі вызначалася лічба 2.000, па 2-й —10.000. [8]

На кожнага арыштавага заводзілася сьледчая справа. Следства рэкамендавалася праводзіць спорщчана і ў сьціслыя тэрміны. Улікі і прызнаньне віны арыштаванага дазвалялася дабываць любым шляхам у працэсе сьледства. Пасьля яго заканчэньня справа накіроўвалася на разгляд тройкі. Апошнія ўзначальвалі адказныя работнікі НКУС рэспублік, краёў і вобласьцяў. Іх рашэньні апеляцыі не падлягалі, вынесены прыгавор адразу-ж прыводзіўся ў выкананьне.

Сем'і асуджаных па 1-й катэгорыі, згодна рашэньню тройкі, падлягалі адпраўцы ў ППЛ альбо перасяленьню ў аддаленныя раёны Поўначы і Сібіры. Апэрацыю належала распачаць адначасова ва ўсіх рэспубліках, краях і абласьцях СССР не пазьней 5 жніўня (на Далёкім Усходзе і Сярэдняй Азіі — з 15 жніўня). Плянавалася, што на ўсю апэрацыю спатрэбіцца чатыры месяцы. Фактычна-ж яна працягвалася амаль цэлы год і адпраўныя лічбы (72950 чалавек па І-й катэгорыі і 186500 — па 2-й) былі значна перакрыты. [9]

Літаральна на наступны дзень пасьля прадстаўленьня Яжовым у ЦК УКП (б) праэкту аператыўнага загаду 31 ліпеня ён быў зацьверджаны Палітбюро ЦК УК(б)б. Яно згадзілася з усімі меркаваньнямі НКУС і яго кантрольнымі лічбамі на рэпрэсіі. Больш таго, яно абавязала СНК СССР з рэзервовага фонду выдаткаваць на правядзеньне апэрацыі 75 мільёнаў рублёў: на аплату чыгуначных перавозак, пабудову новых ГУЛАГаў, пашырэньне адміністрацыйнага апарату й ахову лягероў і г.д. Характэрна, што чатыры апошнія пункты (12-15) рашэньня палітбюро ЦК сьведчаць аб тым, што маючая адбыцца масавая рэпрэсыўная акцыя—справа ня толькі органаў НКУС. *«Абкамам і крайкамам КП(б) і УЛКСМ тых вобласьцяў, дзе будуюцца лагеры, неабходна выдзяліць у распараджэньне НКУС неабходную колькасьць камуністаў і камсамольцаў для камплектаваньня адміністрацыйнага апарату й ахову лягероў; наркамату абароны зь ліку камандскладу запасу, а РККА камандзіраваць 240 чалавек для арганізацыі аховы будуемых лягероў; наркамздраву выдзяліць у распараджэньне ГУЛАГаў НКУС 150 дактароў і 400 фельчароў; наркамлесу—10 буйных спэцыялістаў, Ленінградскай лесатэхнічнай адкадэміі —50 чалавек».*

Атрымаўшы такія ўстаоўкі і прадпісаньні вышэйшай партыйнай інстанцыі на месцах без прамаруджваньня разгарнулі буйную дзейнасьць па іх дасканаламу выкананьню. У прамым і пераносным сэньсе на злом кідалі дзесяткі і сотні «персанальных» лёсаў. Растоптвалі кожнага зь іх паасобку, а зьлітыя ў «адзінае», яны прадстаўлялі адно цэлае—нацыю. Адпраўляючы людзей у нябыт, заганялі ўцалелых у адміністрацыйна-бюрактратычны тупік, зь якога яны зь вялікімі цяжкасьцямі выбіраюцца і па сёньняшні дзень.

У Беларусі «генеральная чыстка» бачна стала набіраць тэмпы ў другой палове 1937 г. і ў першай 1938 г. Як і раней ахвярамі беспадстаўных рэпрэсыяў станавіліся людзі самых розных прафэсыяў, сьветапогляду, сацыяльнай прыналежнасьці. У той-жа час «прыарытэт» аддаваўся найбольш сьвядомаму, адукаванаму, палітычна і прафэсыйна падрыхтаванаму сацыяльнаму асяродзьдзю. Намаганьнямі рэспубліканскіх органаў НКУС была сфабрыкавана прыемная для Масквы справа (на чым настойвалі ў час свайго знаходжаньня ў Беларусі Маленкоў і Якаўлеў) аб існаваньні на тэрыторыі БССР разгалінаванага і добра заканспэраванага антысавецкага падпольля, якое нібыта «дзейнічала» ў шматлікіх напрамках. У склад гэтага падпольля ўключалі як функцыяніруючых дзеячоў і апаратных работнікаў, так і тых, хто па той ці іншай прычыне ўжо зыйшоў з гістарычнай арэны, альбо знаходзіўся ў нябыце. Гэта даволі выразна прасочваецца па аб'ёмістай даведцы, якую Упраўленьне дзяржаўнай бясьпекі НКУС падрыхтавала ў сярэдзіне 1938 г. пад назвай «Вынікі разгрому антысавецкага падпольля ў БССР (па матэрыялах сьледства 1937-1938 гг.) Згодна гэтай даведцы ў рэспубліцы з другой паловы 1937 г. на 1 чэрвеня 1938 г. было «раскрыта» й арыштавана 25700 удзельнікаў «аб'яднанага антысавецкага падпольля». Па катыгорыях справа выглядала наступным чынам: трацкістаў і зяноўеўцаў) 373 чалавек, правых—177, нацыянал-фашыстаў—138, былых эсэраў—585, бундаўцаў—198, меньшавікоў—7, сіяністаў—27, сьвятроў і сэктантаў—1015, клерыкалаў—57.[10] У даведцы падрэсьлівалася, што значная колькасьць зь ліку арыштаваных раней працавала ў кіруючых зьвёнах партыйна-савецкага і гаспадарчага апаратаў. З самых вышэйшых—ЦК Кампартыі і камсамола—за турэмнымі кратамі апынулася 23 чалавекі, з Саўнаркама і ЦВК —16, наркомаў і іх намесьнікаў—40. Побач зь імі былі кіраўнікі сярэдняга і ніжэйшага зьвяна—сакратары парткамаў, старшыні выканкамаў акругі і раёнаў, гаспадарчых органаў—усяго 223 чалавек, навукоўцаў, выкладчыкаў ВНУ і літаратараў—86.

Згодна катэгорыі і ўзроўню прыводзіліся прозьвішчы кіраўнікоў «разгалінаванага антысавецкага падпольля»: трацкіска-зяноўеўцы—Рубінштэйн, Готфрыд, Пасэ, Мельцэр, Гольбер. Пачатак яго існаваньня выводзілі аж з 1933 году, калі М.Гікала ў маскоўскім гатэле «Нацыяналь» быў «завербаваны» па заданьню Троцкага англійскім разьведчыкам Рэйнгольдам.

Кіраўніцтва правай плыняй падпольля чэкістамі было «ўскладзена» на Галадзеда, Валковіча, Хацкевіча, Шаранговіча й іншых. Іх галоўнай мэтай было ні больш, ні менш, як падрыхтоўка замаха на Сталіна, Варашылава і Калініна. Месцамі канцэнтрацыі правых зьяўляліся апараты ЦВК, СНК, Дзяржплана і наркаматы—Наркамзем, Наркаммесцпрам, Наркамгас, Наркамлегпрам, Наркамлес, гандёвы апарат і прафсаюзныя арганізацыі. [11]

Да найбольш адыёзнага нацыянал-фашысцкага падпольля ў якасьці кіраўнікоў былі аднесены вядомыя ў Беларусі людзі—Чарвякоў, Шаранговіч, Жылуновіч, Ляўкоў, Дзьякаў і інш. Сьцярджалася, што гэтая арганізацыя найбольш моцна акапалася ў вышэйшым партыйна-савецкім апараце, Акадэміі навук ,Саюзе пісьменьнікаў і Наркамасьветы. Яна вяла барацьбу супраць індустрыялізацыі, стаяла за захаваньне кулацкіх гаспадарак, намагалася рэстаўрацыі

капіталізму шляхам узброенага зьвяржэньня савецкай улады пры дапамозе Польшчы і Нямеччыны.

«Напружанымі» намаганьнямі чэкістаў была ўскрыта і ліквідавана «бундаўска-сіяністцкая арганізацыя» на чале з рэдактарам менскай яўрэйскай газэты «Кастрычнік», «агентам польскай і літоўскай разьведак» — Ашэровіча. У нелегальны бундаўскі камітэт, нібыта існаваўшы ў Менску, уваходзілі Валт, Гурэвіч, Дунец, Бар, Герман, Д. Рубінштэйн, Камітэт «трымаў сувязі зь «існаваўшымі» у Маскве ВЦК Бунда на чале з Вайштэйнам, Фрумкінай, Шпрахам, Кіппер, Лібверберг і інш. І менскіх, і маскоўскі «сіяністаў» дасягнула «караючая шабля» дыктатуры пралетарыяту. Тое-ж самое было прыгатавана і для «эсэраўскага антысавецкага падпольля». [12]

Вакханалія рэпрэсыўнага разбою набыла жудасныя памеры пасьля зьяўленьня жнівеньскага 1937 г. загаду Яжова за №00485 — шырокавядомая апэрацыя па ліквідацыі польскай, нямецкай і лацьвійскай агентуры. Для Беларусі, межаваўшай з Польшчай, гэты загад меў асаблівае значэньне. Да таго-ж яшчэ з часоў раяніраваньня, у месцах кампактнага пражываньня нацыянальнай большасьці існавалі нацыянальныя сельскія Саветы: налічвалася 23 яўрэйскіх, 12 польскіх, 16 рускіх, 5 лацьвійскіх, 2 украінскіх і 2 нямецкіх Саветаў. У 1933 г. быў створаны нават нацыянальны польскі раён з цэнтрам у Койданава (Дзяржынску). [13] У Маскве лічылі, што БССР зьяўляецца зручным плацдарамам для пранікненьня варожай (асабліва польскай) агентуры ў другія, нават самыя далёкія раёны СССР. Меркавалася, што праз БССР на ўсход перакінута каля 50 тыс. шпіёнаў і дывэрсантаў пад выглядам сваякоў, палітычных і эканамічных эмігрантаў.

Згодна памянёнага загаду № 00485, арышту падлягалі былыя ўдзельнікі польскіх узброеных фарміраваньняў, польскія ваеннапалонныя, родзічы і сваякі асоб, якія ўцяклі ў Польшчу, палітэмігранты, сябры польскіх палітычных партыяў, сябры нелегальнай «Польскай арганізацыі вайсковай» (ПАВ) і г.д. У цэлым па Беларусі трэба было арыштаваць ня менш 7-8 тыс. польскіх шпіёнаў. Але ў выніку сьледства, калі па паказаньнях пачалі праходзіць новыя імёны, лік падлеглых арышту першапачаткова павялічыўся да 15 тыс., а потым (паводля сьведчаньня начальніка 3-га аддзелу НКУС БССР А.М. Гэпштэйна) да 20 тыс. Згодна абагульненых дадзеных на 12 сьнежня 1938 г. у працэсе «Аперацыі па польскай агентуры» было выкрыта й аршытавана польскіх шпіёнаў, дывэрсантаў і ўдзельніка ў паўстацкіх арганізацыяў 21407 чалавек. Трэба мець на ўвазе, што сярод арыштаваных палякі не пераважалі сваёй большасьцю. Нацыянальны склад характарызаваўся наступным чынам: палякаў — 9196 чалавек, беларусаў — 10120, яўрэяў — 1050, рускіх — 386, украінцаў — 181, немцаў — 105, латышоў — 122, літоўцаў — 133 іншых — 110. Усе яны нібыта ўваходзілі ў 11 разгалінаваных паўстанцкіх аргаізацыяў, разьбітых на 522 групы [14].

За час правядзеньня «нямецкай апэрацыі» было ўскрыта і ліквідавана 29 дывэрсыйна-паўстанцкіх і 18 шпіёнскіх груп з агульнай колькасьцю 563 чал, дзе немцы складалі 428 чал. У ходзе лацьвійскай апэрацыі арышту падверглася 1459 чалавек: латышоў — 1089, беларусаў — 203, палякаў — 56, яўрэяў — 41, літоўцаў — 33, рускіх — 16, іншых 21. У той-жа выніковай даведцы ад 12 сьнежня 1938 г. паведамлялася, што з агульнай колькасьці справаў — 67770, разгледжаных асобай тройкай НКУС БССР, да вышэйшай меры пакараньня асуджана



4650 шпіёнаў і дывэрсантаў. [15]

Тады-ж, у канцы 1938 г. была ажыцьцеўлена замена вышэйшага кіраўніцтва НКУС БССР: месца наркама А. Наседкіна заняў Л.Цанава — бліжэйшы паплечнік Берыі; Некалькі адказных работнікаў НКУС былі асуджаны, у тым ліку і па 1-й катэгорыі. Некаторая частка рэпрэсаваных ( у значнай меры зь ліку партыйных-савецкіх работнікаў) была рэабілітавана. У адносінах да іншых былі спынены сьледчыя справы. У студзені-лютым 1939 г. па ўказаньню Цанавы была ажыцьцеўлена праверка стану сьледства афармленьня сьледчых справаў утрыманьня арыштаваных у турмах, пералік колькасьці арыштаваных зь іх фактычнай колькасьцю. За выяўленыя недахопы вінаватыя атрымалі службовае спагнаньне. У выніку ў людзей зьявілася нейкая надзея на ўсталяваньне законнасьці. Але так працягвалася нядоўга. Ужо зь сярэдзіны другой паловы 1939 г. зноў пачынаюць зьбірацца змрочныя хмары над уцалелай часткай «ворагаў народу». Узьядканьне ўсходніх абласьцей БССР з заходнімі значна дабавілі работы чэкістам па вышуку новых праціўнікаў Савецкай улады. А іх, па тагачасных мерках партыйна-дзяржаўнага кіраўніцтва і НКУС, у заходніх абласьцях Беларусі было вельмі шмат: уцалелыя памешчыкі, польскія чыноўнікі, паліцэйскія, настаўнікі, ксяндзы і г.д. Усю «контру» органы НКУС апeратыўна бралі на ўлікі і, не адкладываючы ў доўгую скрыню, пачыналі «распрацоўваць». Доўгачаканая «свабода, роўнасьць, братэрства» абярнуліся тысячамі змрочаных чалавечых лёсаў. Ужо восеньню 1939 г. Берыя аддае дырэктыву аб падрыхтоўцы да дэпартацыі польскіх асаднікаў і службоўцаў лясной аховы.

На золку 10 лютага 1940 г. у 40-градусны мароз органы НКУС праводзяць гэтую буйнамаштабную апэрацыю ў 5 заходніх абласьцях: у ёй удзельнічала 16279 чалавек, апэратыўнага складу НКУС і пагранвойск. За адзін дзень у 32 чыгуначныя саставы было пагружана 9810 сем'яў (каля 53 тыс. чалавек) асаднікаў і лясьнікоў, якія праз некалькі дзён апынуліся ў Паўночным Казахстане і Заходняй Сібіры. [12]. Ня многія зь іх уцалелі і здолелі вярнуцца на родную зямлю.

Тыя-ж, хто заставаўся ў заходніх абласьцях, жылі ў штодзённым жаху і незразумелым чаканьні. Напрыклад, толькі ў сьпісу асуджаных асобай нарадай НКУС Вілейскай вобласьці па стану на 25 сьнежня 1940 г. значылася 1603 чалавек. Аб рабоце спэцыяльнага аддзелу Вілейскай абласной пракуратуры сьведчаць такія лічбы: усяго за 1940 г. прайшло 4705 справаў з колькасьцю 5051 чалавек, на разгляд асобай нарады накіравана 4255 справаў, у абласны суд — 17, ваенны трыбунал — 3, спынена сьледства — 101, накіравана ў другія органы — 10 справаў. [16]

Ня будзе перабольшваньнем сьцярджаць, што такая ці блізкая да яе абстаноўка была і ў чатырох астатніх заходніх абласьцях Беларусі. Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны іх жыхары пасьпелі зьведаць многія з цудаў сталінскай таталітарнай сыстэмы, а многія апынуліся ў далёкіх сібірскіх ГУЛАГах.

Цяжкую спадчыну для беларускага народу пакінуў таталітарны рэжым, і рэпрэсіі 20-30х гадоў займаюць тут асобнае месца. Пад прыкрыцьцём выдуманай ідэі абвастрэньня клясавай барацьбы на шляху пабудовы сацыялізму рэпрэсіі скіроўваліся супраць уяўнага, неіснуючага праціўніка — «ворагаў народу», «здраднікаў», шкоднікаў», «шпіёнаў», «дывэрсан-

таў», «патэнцыяльных паўстанцаў» і г.д. У выніку ад рэпрэсыяў пацярпелі сотні тысяч ні ў чым непавінных людзей. У многіх аказаўся скалечаным лёс, наклалі свой адбітак турмы, лягеры, высылкі, разлукі зь сям'ёй, блізкімі.

Вывучэньне і сапастаўленьне статыстычных дадзеных айчынных і замежных крыніц дазваляюць зрабіць выснову, што беззаконьне і самавольства, якія мелі месца ў 20-30 гады, ня маюць аналягу ў гісторыі. Усе формы палітычнай барацьбы былі падменены насільлем і тэрорам. Гэта быў жудасны генацыд супраць свайго народу, прычым зьнішчалася лепшая частка нацыі, яе элітарны генафод. Па ацэнцы, складзенай на сёньняшні дзень на навуковай аснове, ахвярамі рэпрэсыяў сталі каля 600 тыс. жыхароў Беларусі, зь якіх звыш 240 тыс. грамадзян рэспбулікі былі прыцягнуты судовымі і несудовымі ворганамі. Больш 350 тыс. рэпрэсыраваны ў адміністрацыйным парадку ці, другімі словамі, былі «раскулачаныя», [17] што адмоўна адбілася на гаспадарчым стане сяла. Цяжкі ўрон быў нанесены інтэлігенцыі — інтэлектуальнаму патэнцыялу нацыі, што адыгрываецца і сёньня.

Дарэчы, супраць «гегемона» не праводзілася татальных рэпрэсыяў. Рабочыя звычайна праходзілі ў «зьвязцы» зь іншымі справамі і працэнт іх быў ніжэйшы. І справа ня ў тым, што хтосьці не хацеў «аслабляць дыктатуру пралетарыяту». Проста рабочы кляс у Беларусі быў даволі малалікі.

Усталяваньне таталітарнага рэжыму дэфармавала грамадзка-палітычнае жыццё ў рэспубліцы. Намаганьні кіруючых колаў былі накіраваны на тое, каб сфэру грамадзкай сьвядомасьці цалкам запоўніць камуністычнай ідэялёгіяй, апалагетыкай дыктатуры пралетарыяту. Гэтай мэце поўнасьцю падпарадкоўваліся гуманітарныя навукі, культура, сродкі масавай інфармацыі. Партыйны апарат, ворганы палітычнага вышуку былі мабілізаваны на падаўленьне і прадухіленьне ўсялякага іншадумства. Да палітычнай пільнасьці, узаемнага недаверу і падазронасьці заклікалі працоўныя калектывы, актывісты грамадзкіх арганізацыяў, калегі па працы, бацькі і дзеці. «Твар» беларускай нацыі перажываў істотныя зьмены.

Бібліяграфія


1. «Возвращенные имена...» с. 10-11
2. «Правда истории...» с. 87
3. «ЛіМ», 15 кастрычніка 1993.
4. Тамсама
5. Архіў Узброеных Сіл РФ ф. 25874, воп.2. спр. 578, стк. 11-144.
6. «Труд», 1992, 4 чэрвеня
7. Тамсама
8. Тамсама
9. НАРБ, ф.4, воп.21, спр. 1410, арк.23
10. Коммунист Белоруссии», 1990, №1, с. 66.
11. «Правда истории: боль и гнев», с82-83
12. «Крыжовы шлях», с. 137
13. НАРБ, ф.4, воп.21, спр. 1397, арк. 19-21.
14. Тамсама, арк. 22-24
15. НАРБ, ф. 4, воп. 21, спр. 1694, акр. 2-12.
16. Тамсама, спр. 1900, арк. 9-11.
17. «Беларуская мінуўшчыан», 1993.№3-4, с. 45.




# Шляхі жыцьця Язэпа Гаўрыліка

Уладзімір Адамушка

Імя гэтага чалавека з-за супярэчлівасьці і неардынарнасьці характару ў нядаўнім мінулым стараліся абыходзіць дасьледчыкі. Не знайсьці яго і на старонках беларускіх энцыкляпэдычных выданьняў. Вядома гэтае прозьвішча толькі вузкаму колу гісторыкаў. Але Язэпу Гаўрыліку належыць значнае месца ў беларускім нацыянальным адраджэньні 20-30 гг. І грамадзтва павінна ведаць аб ім.

У канцы мінулага стагодзьдзя недалёка ад Радашковіч у маляўнічым кутку зямлі беларускай раскінуліся ўладаньні памешчыка Гецэвіча. Тут, у маёнтку Вязынь, як і дзесяткі мясцовых сялянскіх сем'яў, працавала на памешчыка прыгонная сям'я Гаўрылікаў, у якой і нарадзіўся бацька Язэпа Амяльянавіча, Амяльян Рыгоравіч Гаўрылік.

У маленстве Амяльян Рыгоравіч знаходзіўся на выхаваньні ў вясковай радні. Па недагляду дарослых зламаў нагу і на ўсё жыцьцё застаўся калекай. Пасьля гэтага здарэньня маці забрала сына ў маёнтак, дзе яна была нянькай дзяцей памешчыка Гецэвіча. Тут Амяльян навучыўся шыць абутак і адзеньне, а таксама прайшоў польскую грамату й атрымаў выхаваньне ў каталіцкім рэлігійным духу. Застаўся верным каьсцёлу да канца жыцьця, але адчуваў сябе фармальна праваслаўным.

Пры агульным перапісу насельніцтва маці не дазволіла аднесьці Амяльяна да вясковых жыхароў, баючыся, што там яго як калеку будуць крыўдзіць. Але гэта быў памылковы крок. Пасьля таго, як сяляне атрымалі вольную, Амяльян Рыгоравіч застаўся без зямельнага надзелу. Брат-жа яго, Марцін, стаў уладальнікма 8 дзесяцін зямлі ў в. Калодчына Вязынскай воласьці.

Праўда, памешчык Гецэвіч, адпускаючы ад сябе маці Амяльяна, надзяліў яе адной дзесяцінай зямлі, якая знаходзілася побач з маёнткам. Тут Амяльян Рыгоравіч пазьней пабудаваў хату, жаніўся і пражыў каля 15 гадоў. На хлеб зарабляў шыцьцём абутку й адзеньня для сялян у навакольных вёсках.

У сярэдзіне 80-х гаду сям'я Амяльяна Гаўрыліка перасялілася па просьбе брата Марціна на яго зямельны надзел. Браты пачалі вясьці гаспадарку разам. Праз некаторы час Марцін памёр. Ягоная жонка з маленькай дачкой неўзабаве пераехалі ў Вільню, пакінуўшы Амяльяну зямлю ў поўнае карыстаньне. За гэта ён кожны год пасылаў сям'і брата пэўную суму грошаў. У 1913. заплаціўшы пляменьніцы 150 рублёў, Амяльян стаў паўнапраўным уладальнікам надзелу зямлі ў 8 дзесяцін.

Рознае бачыла сялянская гаспадарка Амяльяна Гаўрыліка. Былі пад'ёмы, калі ў гаспадарцы налічвалася 2 кані, 3-4 каровы, пара валоў і некалькі авец і хлеб на стале аж да новага ўраджаю. Былі і спады, калі заставаліся адзін конь і адна карова, а хлеб ў вясеньнія месяцы ляжаў на стале, як «наглядны дапаможнік» ці для таго, каб перад суседзямі не было сорамна, бо есьці яго не дазвалялася. Посьпехі гаспадаркі залежалі ад колькасьці ў ёй рабочы рук і былі прама прапарцыянальны колькасьці ратоў. Сям'я Амяльяна Рыгоравіча Гаўрыліка налічвала 11 дзяцей: 4 сыноў і 7 дачок. У 1893 г. у гэтай сям'і нарадзіўся

г. Беларуская школьная рада, якую ўзначальваў Б.Тарашкевіч, накіравала яго ў Радашковічы настаўнікам толькі што адкрытай Беларускай прыватнай гімназіі. У гімназіі ён выкладаў беларускую мову, літаратуру, беларускую геаграфію і гісторыю, тэорыю сьпеваў. Кіраваў школьным хорам, які даваў публічныя канцэрты, быў галоўным рэжысёрам і мастацкім кіраўніком вучнёўскіх спэктакляў, займаў пасады сакратара пэдагагічнага савету ў гімназіі і сакратара таварыства беларускай школы.

У 1922 г. пры выбарах у польскі сейм Язэп Амяльянавіч нават увайшоў кандыдатам у беларускі спісак №16 па Лідзкай акрузе, па якому прайшлі затым дэпутатамі Аўсянік і С. Рак-Міхайлоўскі. У 1924 г. нейкі час па прапанове М. Бурсевіча зьбіраў зьвесткі аб дзейнасьці мясцовых польскіх улад для Савецкага консульства ў Варшаве, але «контрразьведчык» зь яго не атрымаўся.

З пачатку стварэньня Беларускай Грамады ён становіцца сябрам гэтай арганізацыі. Але праявіць сябе актыўна на палітычнай рабоце не дазволіла вялікая занятасьць у гімназіі.

Радашковічаўскі пэрыяд жыцьця Я.Гаўрыліка даволі супярэчлівы. Зьяўляючыся сябрам Грамады, ён дапамагаў дастаўляць у Вільню савецкую агітацыйную літаратуру ці правозіў зь Вільні камуністычныя лістоўкі для распаўсюджваньня ў Радашковічах. У той-жа час ён публічна абвяшчае хвалебныя лёзунгі ў гонар прэзыдэнта Польшчы, адкрывае публічныя вучнёўскія канцэрты сьпяваньнем польскага нацыянальнага гімну.

Як успамінаў сам Язэп Амяльянавіч, *«апынуўшыся паміж польскай накавальняй, дзе балюча давала сябе адчуваць паланізацыя Заходняй Беларусі і памешчыцкая капіталістычная рэакцыя, аб дэфэнзіўных засьценкаў якой крычалі дэпутацкія інтэрпеляцыі ў сейме, і паміж савецкім молатам, дзе яўна ішло ганеньне на рэлігію і дзе лютавала ЧК у барацьбе з контррэвалюцыяй, а па-мойму з законным правам кожнага чалавека думаць па-свойму, але дзе ўсётакі давалася месца свабоднаму разьвіцьцю беларускай нацыянальнай культуры, я вагаўся,не знаходзячы сабе трывалага месца, і схіляўся то ў адзін, то ў другі бок».*

У адносінах да беларускіх нацыянальных дзеячоў у яго таксама не было строгай дыферэнцыяцыі ў пачуцьцях. Падтрымліваў сяброўскія адносіны як з крайне левымі «грамадоўцамі», так і з «правымі». Жывучы на мяжы, дапамагаў рэдакцыям беларускіх рабоча-сялянскіх газэт выратоўваць супрацоўнікаў ад польскай турмы. (Даваў ім часовы прытулак і дапамагаў зьвязвацца з праваднікамі праз мяжу ў СССР.) Такую-ж паслугу аказваў вучням Віленскай, Навагрудзкай і Клецкай гімназіяў, якія накіроўваліся ў БССР для вучобы ў вышэйшых навучальных установах па папэрэдняй дамоўленасьці з Савецкім пасольствам у Варшаве. Быў выпадак, калі сам накіраваў двух чалавек у Менск, якім пагражаў арышт за рэвалюцыйную работу. (Даў уцекачам на рукі запіску да незнаёмага яму асабіста У. Ігнатоўскага з просьбай дапамагчы ім уладкавацца). Праўда, па невядомых прычынах праз нейкі час гэтыя эмігранты былі вернуты зь Менску назад у Польшчу й арыштаваны польскімі ўладамі. У выніку гэтага на кватэры Язэпа Амяльянавіча быў зроблены вобыск. На шчасьце, абышлося без арышту.

1927 г. стаў годам зьменаў у асабістым жыцьці Я.А.Гаўрыліка. Ён ажаніўся на настаўніцы польскай мовы і літаратуры Вандзе Малінак. Летам гэта-ж году яго выклікалі ў Вільню,у вучэбную акругу,дзе яму і жонцы прапанавалі пасады настаўнікаў у дзяржаўнай настаўніцкай сэмінарыі ў Маладэчна. Прапанова была прывабная, але зьдзейсьніцца магла пры адной умове — пасьля прымірэньня з маладэчанскім старастам. Гэтае прымірэньне азначала, папершае, адказ ад удзелу ў беларускім нацыянальна-вызваленчым руху, адыход ад палітычнага жыцьця, па-другое, меркавалася актыўная сувязь з польскай дэфензівай. Вядома, на такія ўмовы Язэп Амяльянавіч не згадзіўся. Гэта і вырашыла яго далейшы лёс. У 1927-1928 вучэбным годзе ён ня быў дапушчаны да працы ў гімназіі як палітычна неблаганадзейны.

Вясной 1928 г. адбыліся выбары ў польскі сейм. Па прапанове І. Дварчаніна Я. Гаўрылік даў згоду вылучыць сваю кандыдатуру ад клюбу «Змаганьне» па Навагрудзкай акрузе. Па выніках галасаваньня, быў выбраны дэпутатам сейма. Прыйшлося, такім чынам, пераключыцца чыста на палітычную дзейнасьць. Яшчэ ў пэрыяд выбарчай кампаніі ён ведаў, што спісак кандыдатаў ад клюбу «Змаганьне» падтрымала сваёй агітацыяй камуністычная партыя Заходняй Беларусі. Пасьля перамогі на выбарах ён разумеў, што сваім выбраньнем абавязаны КПЗБ і таму працаваць яму прыйдзецца пад непасрэдным кіраўніцтвам яе Цэнтральнага Камітэту. А гэта азначала таксама, што ўсім дэпутатам-беларусам, як і іх папярэднікам-грамадаўцам, патрэбна рыхтавацца да доўгатэрміновага зьняволеньня ў польскіх турмах. З усім Язэп Гаўрылік быў згодны, аб чым і сказаў на першай нарадзе выбраных дэпутатаў зь сябрамі ЦК КПЗБ. Не зьяўляючыся сябрам КПЗБ, ён узяў на сябе абавязак працаваць сумленна на карысьць беларускага нацыянальнага адраджэньня. На гэтай-жа нарадзе, невядома зь якой нагоды, не І.Дварчанін, а Я. Гаўрылік быў вылучаны сябрам ЦК КПЗБ старшынёй дэпутацкай фракцыі «Змаганьне». Гэтая акалічнасьць стала яблыкам разладу ў адносінах паміж І. Дварчанінам і Я. Гаўрылікам.

Летам 1928 г. сям'я Гаўрыліка пераязджае з Радашковіч у Вільню—цэнтр дзейнасьці дэпутатаў-беларусаў па-за Сеймам. Дэпутацкая фракцыя «Змаганьне» у Сейме выступала ў цесным кантакце і згодзе з фракцыяй камуністаў і украінскай фракцыяй «Сельраба». У сапраўднасьці ўсёй дэпутацкай працай фракцыі кіраваў ЦК КПЗБ, які накіроўваў сваіх упаўнаважаных у Вільню для непасрэднага кіраўніцтва яе дзейнасьцю. Іншы раз дэпутаты езьдзілі ў Данцыг на сумесныя нарады зь сябрамі ЦК КПЗБ. Першай драмай, якую перажыў Язэп Амяльянавіч у пэрыяд дэпутацкай дзейнасьці, быў вымушаны для яго разрыў зь людзьмі, перад якімі ён раней пакляняўся: з вызваленымі пасьля суду над «Грамадой» А. Луцкевічам і Р.Астроўскім, а таксама з усімі астатнімі нацыянальнымі дзеячамі Заходняй Беларусі той беларускай арыентацыі, якая займала супрацьлеглую КПЗБ пазыцыю. У ходзе практычнай работы яму прыйшлося ўсвойваць прынцып клясавага падыходу да рэчаў і да людзей і праводзіць гэты прынцып у жыцьцё: лічыць ворагамі сваіх некалі лепшых сяброў, асуджаць некаторыя ідэі, якія яшчэ нядаўна былі тваімі. Гэта давалася Язэпу нялёгка й у яго ня раз узьнікала думка адмовіцца ад дэпутацкага мандату. Але ўгаворы І. Дварчаніна і другіх сяброў узялі верх, і ён з галавой увайшоў у палітычную рэвалюцыйна-вызваленчую работу пад сьцягам Кампартыі .Для яго заставалася адкрытым толькі пытаньне аб адносінах да рэлігіі.

У 1929 г. на адной з сустрэч сябры ЦК КПЗБ выказалі сваю заўвагу наконт таго,

што ён не ўступіў яшчэ ў Кампартыю, і прапанавалі яму падаць заяву. Падобныя прапановы Язэп Амяльянаввіч атрымоўваў двойчы, у 1921 і 1922 гг. Але і на гэты раз ён адказаў, што пакуль грунтоўна не пазнаёміцца з марксісцка-ленінскай тэорыяй і ня вырашыць пытаньня ці гатовы на ўсё, што падтрабуецца ад сябра партыі па партыйнай дысцыпліне, да тых пор заяву падаваць ня будзе. У сакавіку 1930 г. прапанова аб уступленьні ў партыю была паўторана. Але і ў чацьвёрты раз Я. А. Гаўрылік згоды ня даў.

Выйсце з гэтага кола было нечаканым. На нарадзе ў Данцыгу ў травені 1930 г. яму сказалі, што ЦК КПЗБ залічыла яго сябрам КПЗБ. Язэпу Амяльянавічу нічога не заставалася як пагадзіцца. Аднак ён зазначыў, што пакідае за сабой права лічыць адкрытымі некаторыя каардынальныя пытаньні свайго сьветапогляду.

У жніўні 1930 г. Я. А. Гаўрылік арыштоўваецца польскімі ўладамі ў трэці раз, абвінавачваецца як «дзяржаўны злачынца» і прыгаворваецца да 9,5 гадоў катаржных працаў. Тэрмін адбывае у Віленскай турме.

15 верасьня 1932 г. у ліку 40 палітычных вязьняў Я. А. Гаўрылік быў абменены на польскіх вязьняў і апынуўся ў Менску. Тут знайшоў і сваю сям'ю. Перапоўнены ўдзячнасьцю за вызваленьне да Савецкага Саюзу, ён пачынае працаваць на карысьць Савецкай улады ў Народным камісарыяце асьветы. Але працаваць яму на ніве народнай асьветы давялося нядоўга. 1 верасьня 1933 г. Язэп Амяльянавіч Гаўрылік арыштоўваецца ворганамі НКУС у справе «Беларускага нацыянальнага цэнтру». Справа была сфабрыкавана. Пасьля арышту Гаўрылік многае перадумаў. Упершыню ён зразумеў сатанінскую сутнасьць бальшавіцкай сістэмы. *«У мой лёс умяшалася Боская воля, якая зараз паказала мне выразна і немінуча сьцярджальна, што я стаяў на памылковым жыцьцёвым шляху. Непасрэдна перад нечаканым арыштам мяне воргнамі ДПУ і дні самога майго арышту я атрымаў бясспрэчныя доказы існаваньня Бога і загробнага жыцьця а разам з тым, апошняе папярэджваньне і ўказаньне — трымацца у далейшым Евангельскага вучэньня. Гэтаму ўказаньню і толькі яму падпарадкоўваюся строга і безадкланяльна ў далейшым жыцьці, калі яна мне лёсам будзе пакінута».* Але лёс распарадзіўся па-свойму.

9 студзеня 1934 г. пастановай судова калегіі АДПУ Я. А. Гаўрылік быў прагавораны да вышэйшай меры пакараньня з заменай на 10 гадоў пазбаўленьня волі. Тэрмін адбываў на Салаўках і будоўлі Беламора-Балтыйскага каналу. 25 лістапада 1937 г. прыгавораны да расстрэлу. Як сьведчаць дакумэнты, расстраляны 8 сьнежня 1937 г.

Рэабілітаваны пасьмяротна Ваенным трыбуналам Беларускай ваеннай акругі па абедзьвюх справах 18 красавіка 1956 г.

Усяго 44 гады было адведзена яму лёсам.



ПАД БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫМ СЬЦЯГАМ

# Як сьвяткавалі дзень Аршанскай перамогі

Анатоль Грыцкевіч

Беларускі адраджэнскі рух працягвае сваю пастаянную работу па ўзнаўленьню ў сьвядомасьці народу слаўных гістарычных датаў, якія былі надзейна схаваныя бальшавіцкімі ідэялягічнымі кіраўнікамі й іх памагатымі зь ліку беларускіх савецкіх гісторыкаў. Пачынаючы з 1992 году, патрыятычныя колы на Бацькаўшчыне сьвяткуюць Дзень Беларускай вайсковай славы—дзень перамогі беларускага шляхецкага войска 8 верасьня 1514 г. на Крапівенскім полі пад Воршай над войскам маскоўскіх захопнікаў, якое было ў тры разы большым. Беларускія рыцары ўпісалі залатымі літарамі гэты дзень апалы эўрапейскай гісторыі.

8 верасьня ўпершыню адзначалася як сьвята ў 1992 г. на плошчы Незалежнасьці ў Менску. Гэтае сьвята ладзілі Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне», Беларускае Згуртаваньне Вайскоўцаў і дэмакратычныя партыі. Афіцэры Беларусі, а таксама афіцэры запасу і ў адстаўцы прынесьлі вайсковую прысягу на вернасьць свайму народу. Аднак потым міністар абароны Беларусі генерал П. Казлоўскі звольніў з войска амаль усіх удзельнікаў гэтай прысягі. Прычына была абгрунтавана надзвычай проста: у войску нельга займацца палітычнай дзейнасьцю. Праўда, гэта датычылася толькі беларускіх патрыётаў. Ва ўзброеных сілах Беларусі актыўна дзейнічаюць антыбеларускія сілы: эсэраўцы —Славянскі сабор «Белая Русь», Саюз афіцэраў (армія Расейскага Саюзу афіцэраў), партыя камуністаў.

8 верасьня 1993 г. БНФ, БЗВ, іншыя беларускія дэмакратычныя партыі і патрыятычныя арганізацыі (Беларуская Сацыялістычная Грамада, Нацыянальна-Дэмакратычная партыя, Беларуская Хрысьціянска-Дэмакратычная партыя, Згуртаваньне Беларускае Шляхты й іншыя) зноў сьвяткавалі гэты дзень ля Опэрнага тэатра, дзе адбыўся ўрачысты мітынг і канцэрт.

У ліпені 1994 г. Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне», Беларуская Нацыянальная партыя, Беларуская Хрысьцянска-Дэмакратычная партыя, Згуртаваньне Беларускае Шляхты й іншыя партыі і клюбы стварылі арганізацыйны камітэт сьвяткаваньня 40-ых угодкаў Аршанскай бітвы. Старшынёй аркамітэту абралі мяне, намесьнікамі старшыні: вядомага беларускага мастака Міколу Купаву, намесьніка старшыні Згуртаваньня Беларускае Шляхты Леаніда Акаловіча (выкладчыка беларускай мовы Беларускага пэдагагічнага ўнівэрсытэту) і кандыдата гістарычных навук Сяргея Тарасава. Пазьней Беларуская Сацыялістычная Грамада і Беларускае Згуртаваньне Вайскоўцаў стварылі яшчэ адзін аргкамітэт сьвяткаваньня Дня Аршанскай перамогі. Яго ўзначаліў намесьнік старшыні Менскага

гарвыканкаму Анатоль Гурыновіч.

Аргкамітэт, які я меў гонар узначаліць, за кароткі тэрмін правёў вялікую падрыхтоўчую работу. Былі падрыхтаваны радыёперадачы, прысьвечаныя слаўнай гадавіне. Праўда, новае кіраўніцтва беларускага радыё (сп. Ядранцаў, прызначаны на пасаду кіраўніка прэзыдэнтам А. Лукашэнкам) забараніла перадаваць у эфір маё інтэрв'ю з нагоды юбілею Аршанскай бітвы. Падрыхтаваныя перадача на поўгадзіны эфірнага часу і музычнае афармленьне, выкананае кампазітарам і сьпявачкай Г.Смоляк, была скарочана да дзесяці хвілін. (Перадалі толькі мае адказы на пытаньні С.Тарасава).

8 верасьня ўдалося зрабіць невялікую перадачу на тэлебачаньні, а ў сярэдзіне верасьня па 8-му каналу тэлебачаньня быў паказаны рэпартаж журналістаў «Беларускай маладзёжнай» аб сьвяткаваньні на Крапівенскім полі, дзе калісьці адбылася гэтая бітва.

Сябрамі аргамітэту былі падрыхтаваныя артыкулы ў газэты пра Аршанскую бітву. Нажаль, надрукаваны быў толькі адзін мой вялікі артыкул у «Народнай газэце». Таксама аргкамітэт зьвярнуўся зь віншаваньнем (праз газэты) да беларускага народу з Днём Беларускай вайсковай славы.

3 верасьня на старажытным замчышчы ў Воршы мусілі пачацца ўрачыстасьці, але мясцовыя ўлады забаранілі правядзеньне якіх-небудзь імпрэз, нават навуковыя чытаньні ў памяшканьні гарадзкой бібліятэкі. (Падобную гісторыю ўлады паўтарылі ў Віцебску). Таму аршанцы з БНФ і тыя, хто прыехаў зь Менску, прайшліся пад гукі фанфараў і барабаны зь бел-чырвона-белым сьцягамі ад замчышча да Цэнтральнай плошчы. Там усе селі ў адмыслова падрыхтаваныя аўтобусы і паехалі на Крапівенскае поле (паміж Дняпром і рэчкай Крапіўкай). Нас суправаджалі і каля поля ўжо чакалі афіцэры міліцыі зь дзяржаўнай аўтаінспэкцыі, якія сачылі за парадкам (і не дазвалялі, каб мы спыніліся надоўга каля крыжа, які быў нядаўна пастаўлены ў вёсцы каля Крапівенскай царквы).

На Крапівенскім полі былі асьвечаны крыж і помнік. Выступілі з прамовамі Зянон Пазьняк, Анатоль Грыцкевіч, Мікола Купава. У выступах шмат гаварылася пра самую бітву, гераічныя ўчынкі нашых продкаў і пра сёньняшнюю сытуацыю ў Беларусі, калі зноў паднялі галовы антыбеларускія сілы, якія хочуць зрабіць нашую незалежнасьць фіктыўнай. Было запалена вогнішча ў памяць змагароў. Пасьля на полі адбыўся канцэрт, на якім выступілі майстры беларускага мастацтва.

7 верасьня ў Нацыянальным музэі Беларусі была адчынена выстава «Слава твая, Беларусь». Але галоўнай імпрэзай юбілею было сьвяткаваьне ў Менску 8 верасьня. Праўда, і яму папярэднічалі перашкоды з боку ўлады. Камуністычныя газэты пачалі палітычную гістэрыю, абвінавачваючы «беларускіх нацыяналістаў» у акцыі, скіраванай на парушэньне вечнай дружбы паміж расейскім і беларускім народамі, паміж «старшэйшым і малодшым братамі» (дарэчы, гэта і лексіка прэзыдэнта Беларусі).

На паседжаньні выканкама Менскага гарсавета 24 жніўня альтэрнатыўны аргкамітэт (БСДГ і БЗВ) атрымаў дазвол наладзіць мітынг і канцэрт на плошчы Якуба Коласа, ля філярмоніі.Наш арганізацыйны камітэт быў прадстаўлены на перамовах з гарадскім выканкамам Анатолем Грыцкевічам, М. Купавам і Зянонам Пазьняком. Заяву на дазвол шэсьця ад плошчы Незалежнасьці да Опэрнага тэатру падпісалі я, старшыня аргкамітэту, і Зянон Пазьняк. Гарвыканам даў згоду на правядзеньне шэсьця толькі ад помніка Янку Купале па вуліцы Янкі Купалы да Опэрнага тэатру, а таксама мітынг і канцэрт ля Опэрнага тэатру ад паловай сёмага і да адзінаццатай гадзіны вечара.

Аргкамітэт падрыхтаваў удзел ў шэсьці коньніцы на чале з князем Канстанцінам Астрожскім, пешых воінаў у тагачасных строях. Артыст, які выконваў ролю Астрожскага, мусіў зачытаць грамату-зварот да сваіх рыцараў і нашчадкаў з заклікам бараніць незалежнасьць сваёй краіны.

Дні за два да сьвяткаваньня ў друку зьявілася паведамленьне, што Прэзыдэнт А. Лукашэнка вельмі незадаволены сьвяткаваньнем гэтай слаўнай даты ў гісторыі Беларусі, якая, маўляў, перашкаджае умацоўваць дружбу паміж Расеяй і Беларусьсю. Прэзыдэнт А. Лукашэнка нават абразіў арганізатараў і ўдзельнікаў сьвяткаваньня, назваўшы гэтую імпрэзу «нацыяналістычным шабашом».

Пасьля такой падтрымкі гарадзкія ўлады, якія і так далі дазвол неахвотна, забралі яго назад. За два дні да сьвята, 6 верасьня Менскі гарвыканкам выклікаў тых, хто падпісаў заяву. Паколькі я ў гэты час чытаў лекцыі ў Беларускім ўнівэрсытэце культуры, на паседжаньне гарвыканкама пайшлі Зянон Пазьняк і Мікола Купава. Сваёй адмовай дазволіць сьвяткаваньне Менгарвыканкам парушыў закон аб мітынгах, шэсьцях і сходах, прыняты 5 красавіка 1988 г. Вярхоўным Саветам БССР. Паводля яго, улады могуць адмяніць свой дазвол за 5 дзён, а не за два дні да правядзеньня мерапрыемстваў. Такім чынам, гарвыканкам парушыў закон, а мяне, старшыню аргкамітэту нават не паведаміў афіцыйна пра сваё новае рашэньне.

Аргкамітэт і кіраўніцтва БНФ выказалі пратэст гарвыканкаму ў сувязьзю з парушэньнем закону. Вечарам у той-жа дзень мы сабраліся на нараду і вырашылі ладзіць шэсьце.

8 верасьня 1994 г. ў палове сёмай у парку Янкі Купалы ля помніка нашаму славутаму песьняру сабралося некалькі тысяч чалавек. А ўсяго, разам з тымі, хто прыйшоў на сьвята, ля Опэрнага тэатру было каля 15 тысяч.

Шэсьце пачалося з сыгналу доўгіх трубаў. На іх ваяўнічы вокліч прыехаў князь Астрожскі й ягоныя рыцары на конях. (Сярод вояў была адна дзяўчына-амазонка, якая грацыёзна ехала на кані.) Усюль луналі бел-чырвона-белыя сьцягі, транспаранты з патрыятычнымі надпісамі. У людзей быў сьвяточны настрой. Усе арганізавана, у калонах, пайшлі да выхаду з парку. Наперадзе ехала коньніца. Нечакана перад людзьмі зьявіліся атрады АМАП (атрады міліцыі асобага прызначэньня) з дубінкамі. Палкоўнік, які камандаваў разгромам, загадаў людзям і коньнікаў перайсьці на тратуары. Але праз тратуары былі пракладзены трубы, і коні не маглі ісьці па іх. Пачалася штурхалка. Дзякуй Богу, не дайшло да крыві. Дэпутаты Вярхоўнага Савета Зянон Пазьняк і Валянцін Голубеў хутка пайшлі на перамовы з міліцэйскім кіраўніцтвам. Урэшце, міліцыянты адступілі на сярэдзіну вуліцы. Людзі пайшлі да Опэрнага тэатру.

Там перад самым пачаткам мітынгу зноў паміж прыступкамі да тэатру і народам выступіла шарэнга міліцыянераў. Зноў Зянон Пазняк і Валянтын Голубеў мусілі пераканаць палкоўніка адступіць і даць мажлівасьць правесьці мітынг і канцэрт. Людзі крычалі: «Ганьба!»

Далей усё адбывалася без перашкодаў і працягвалася па пляну. Напачатку выступіў князь Астрожскі, які зачытаў грамату. Далей праехалі яго коньнікі і прайшлі воіны.

Адбылося спаборніцтва паміж двума воямі, як заўсёды калісьці было перад пачаткамі бітвы. Далей адбыўся невялікі мітынг, на якім выступілі я як старшыня аргкамітэту і Зянон Пазьняк. У сваім выступленьні я падкрэсьліў значэньне бітвы пад Воршай у гісторыі нашага народу, а таксама нагадаў некаторыя моманты гэтай перамогі. Зянон Пазьняк засяродзіў увагу на сучасным моманьце Беларусі. Ён гаварыў пра вялікую небясьпеку для незалежнасьці Бацькаўшчыны з боку суседняй Расеі, якая павялічылася ў апошні час.

Пасьля выступленьняў прамоўцаў адбыўся сьвяточны канцэрт. Амаль тры гадзіны выступалі артысты і мастацкія калектывы рэспублікі, радуючы багацьцем талентаў і добрым нацыянальным густам. Людзі былі ў такім захапленьні, што забыліся на правакацыі ўладаў.

Але антыбеларускія сілы не даравалі нам правядзеньне гэтага сьвята. На наступны дзень на тэлебачаньні выступіў міністр унутраных справаў сп.Захарчанка з пагрозамі ў адрас арганізатараў сьвята. Аднак аргкамітэт працягваў сваю справу.

12 верасьня ў музэі Максіма Багдановіча адкрылася мастацкая выстава «Гонар. Годнасьць. Бацькаўшчына». Беларускія мастакі прадставілі на ёй свае карціны на гістарычныя тэмы.

29 верасьня ў Нацыянальным музэі гісторыі і культуры Беларусі адбылася прэзэнтацыя карціны мастака Генрыха Ціхановіча «Бітва пад Воршай 1514 год».

Аргкамітэт правёў сваё апошняе паседжаньне, якое было адначасова сустрэчай з журналістамі. Выступалі А.Грыцкевіч, М. Купава, Л. Ажаловіч, С. Тарасаў, якія расказалі аб дзейнасьці камітэту. Як старшыня камітэту, я склаў падзяку ўсім тым, хто ў свой вольны ад працы час самаахвярна працаваў усе гэтыя месяцы. Таксама была прынята адозва да грамадзянаў Беларусі, якую перадалі ў рэдакцыі газэт.

А потым улады пачалі помсьціць. 14 верасьня мяне выклікалі ў аддзел унутраных справаў Цэнтральнага раёну горада Менска, дзе афіцэры міліцыі склалі пратакол аб правапарушэньні, якое я зрабіў, стаўшы «арганізатарам беспарадку». Справа была перададзена ў суд Цэнтральнага раёну г. Менску і чакае свайго разгляду. Усё гэта іскрава сьведчыць аб тым, што адраджэньне нашай гісторыі сустракае вялікія перашкоды з боку беларускага ўраду. Мэта цяперашняга рэжыму адна: прадухіліць у будучым кожную патрыятычную маніфестацыю, запалохаць людзей, прыдушыць беларускі адраджэнскі рух і апазыцыю ў Вярхоўным савеце, паказаць сваю адданасьць Маскве, знайсьці «ахвярнага казла» ў эканамічнай сытуацыі Беларусі (А сытуацыя гэтая што месяц пагаршаецца). Але ўсе гэтыя праявы і дзеі антыбеларускай палітыкі кіруючага рэжыму марныя. Яму не ўдасца задушыць ні адраджэньне Беларусі, ні параскі дэмакратыі ў нашай краіне.



# У гонар слуцкіх паўстанцаў

Анатоль Белы

У пачатку кастрычніка 1994 г. быў створаны аркамітэт па сьвяткаваньню 74-х угодкаў збройнага Слуцкага чыну. У камітэт, які ўзначалілі старшыня гарадзкой рады Таварыства беларускай мовы імя Фр. Скарыны прафэсар Мікола Савіцкі, заступнік старшыні кандыдат гістарычных навук дацэнт Мікола Анцыповіч, сакратар Людміла Дзіцэвіч, увайшлі прадстаўнікі многіх палітычных партыяў, арганізацыяў, клюбаў і фондаў. Аркамітэт распрацаваў плян мерапрыемстваў па ўшанаваньню памяці герояў Слуцкага паўстаньня.

Згодна пляну, сьвяткаваньне пачалося ў мястэчку Грозаве, што на Капыльшчыне. Тут 74 гады назад 27 лістапада 1920 г. грозаўскі полк абаронцаў БНР прыняў першы бой з бальшавіцкімі атрадамі. У гонар палеглых герояў антыбальшавіцкага Слуцкага паўстаньня беларускія патрыёты 26 лістапада 1994 году ўстанавілі ў Грозаве шасьціканцовы вайсковы крыж. На асьвячэньні крыжа сабралося багата жыхароў мястэчка, а таксама гасьцей зь Менску, Копыля й іншых гарадоў Беларусі. Вучні, што прыйшлі на ўрачыстасьць, трымалі бел-чырвона-белыя сьцяжкі. Наогул, нацыянальныя сьцягі луналі ў гэты дзень у Грозаве паўсюль. На месьцы асьвячэньня крыжа адбыўся мітынг, на якім выступілі сябры БНФ, Грамады й іншых дэмакратычных партыяў і арганізацыяў.

У гэты-ж дзень прадстаўнікі дэмакратычных сілаў наведалі Семежава. Тут у 1992 годзе на месьце, дзе размяшчаўся штаб 1-га Слуцкага палка, адбылося першае сьвяткаваньне угодкаў Слуцкага чыну на Бацькаўшыне і пастаўлены крыж у гонар герояў Слуцкага паўстаньня. Беларускіх патарыётаў сустрэла ў Семежаве каля крыжа група міліцыянераў. Але нягледзячы на гэта, мітынг адбыўся. На ім ягоныя ўдзельнікі яшчэ раз узгадалі гераічныя шляхі слуцкіх паўстанцаў.

Урачыстая вечарына з нагоды 74-х угодкаў Слуцкага паўстаньня адбылася ў Салігорску. Яе ладзілі Незалежны прафсаюз гарнякоў і Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў. У мастацкай частцы вечарыны выступілі барды Алег Атаманаў і Кастусь Герашчанка. У іх выкананьні прагучалі песьні, прысьвечаныя мужным змагарам-случчакам.

Пікет, прысьвечаны слуцкім паўстанцам, быў устаноўлены ў цэнтры Горадні. Такім нетрадыцыйным шляхам сябры БНФ «Адраджэньня» нагадалі горадзенцам аб гістарычнай падзеі нашай мінуўшчыны, праўда аб якой доўгі час была схавана ворганамі КДБ.

# КАРАНІ НАШАГА РОДУ

## Гаворыць Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь

*На сэсіі Гомельскага гарсавета:*

«Людзі, якія размаўляюць на беларускай мове, не могуць рабіць нічога, як толькі размаўляць на беларускай мове. Таму што па-беларуску нельга выказаць нешта вялікае. *Беларуская мова — бедная мова.* У сьвеце існуе толькі дзьве вялікія мовы — гэта расейская й ангійская.»

(«Наша Слова», 14 сьнежня 1994 г.)

*На сустрэчы з працаўнікам бабаўняна-папяровага камбіната г. Баранавічы:*

«Разбяромся мы і з вашым кіраўніцтвам. Што гэта за пазыцыя? Прэзыдэнт краіны прыязджае ў горад, а старшыня гарвыканкама недзе ў Кітаі ці Японіі. Няхай і працуе ў Кітаі ў вольнай эканамічнай зоне.

(«Звязда», 16 сьнежня 1994 г.)

*На сустрэчы з прадстаўнікамі маладзёжных арганізацыяў і студэнцтва:*

«Зь сёньняшняга дня ўплываць на сродкі масавай інфармацыі, а таксама ўмешвацца ў іх працу мы будзе вельмі актыўна. Я прыйшоў *як мінімум на 10 гадоў* і журналістам да гэтага трэба рыхтавацца.»

«У гэтай дзяржаве забараніць усё, тым больш у такіх пікантных сытуацыях, можа толькі адзін чалавек... Я прыйшоў у пятніцу ўвечары на працу, і пытаньне аб магчымым друкаваньні даклада было пастаўлена сп. Фядотай. (Гутарка ідзе пра даклад дэпутата Сяргея Антончыка на сэсіі Вярхоўнага Савета, які датычыўся карупцыі высокапастаўленых асобаў прэзыдэнцкага асяродзьдзя Кебіча, Чігіра, Багданкевіча і многіх, многіх іншых чыноўнікаў з прэзыдэнцкага асяродзьдзя. На жаль, гэты даклад змагла адразу надрукаваць толькі незалежная «Газета Андрея Климова»- рэд.) Адзіная газета, якая хацела надрукаваць даклад — «Советская Белоруссия». І калі сп. Фядута запытаў у сп. Асінскага, то Асінскі яму адказаў: «Ды што вы, хлопцы, здурэлі зусім друкаваць неправераны матэрыял! Я-ж потым ад іскаў не адабʼюся... А што тычыцца забароны на друкаваньне, дык ніхто ніякай забароны не даваў...Проста астатнія газеты вырашылі праявіць салідарнасьць з газетай «Советская Белоруссия». І я заўтра таксама прадʼяляю салідарнасьць і падпішу ўказ аб зьняцьці галоўных рэдактараў.

...Настаў час правядзеньня жорсткай палітыкі, бо Прэзыдэнт павінен быць не размазьнёй, а кіраўніком дзяржавы. Будзьце упэўнены, *парадак у краіне я навяду*».

(«Звязда» 28 сьнежня)



# ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПІСЬМО

**КАМІТЭТ ПА АРХІВАХ І СПРАВАВОДСТВУ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
БЕЛАРУСКІ НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧЫ ЦЭНТР
ДАКУМЕНТАЗНАЎСТВА, АРХЕАГРАФІІ
І АРХІЎНАЙ СПРАВЫ
БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ КЛУБАЎ ЮНЕСКА
ЧАСОПІС "БЕЛАРУСКАЯ МІНУЎШЧЫНА"**

**арганізуюць і праводзяць у верасні 1995 года ў Мінску міжнародную навуковую канферэнцыю па тэме:**

## "ЗАРУБЕЖНАЯ АРХІЎНАЯ БЕЛАРУСІКА".

На канферэнцыі мяркуецца абмеркаваць наступныя асноўныя праблемы:

— выяўленне дакументаў і матэрыялаў па гісторыі Беларусі ў архівах, музеях і бібліятэках блізкага і далёкага замежжа;
— прававое забеспячэнне рэстытуцыі беларускіх архіваў;
— архівы беларускай эміграцыі;
— перыядычныя выданні беларускай эміграцыі як крыніца па гісторыі Беларусі;
— беларусіка ў замежных краінах;
— агляд дакументаў і матэрыялаў па гісторыі Беларусі, што знаходзяцца ў замежных архівах, бібліятэках і музеях;
— лёс архіва БНР;
— іншыя пытанні, звязаныя з замежнай архіўнай беларусікай.

Заяўкі на ўдзел у канферэнцыі просім накіроўваць да 1 красавіка 1995 года, а тэзісы дакладаў і выступленняў (да 5 старонак машынапісу праз 1,5 інтэрвала, магчымы тэкставы файл на гібкім магнітным дыску, на беларускай, англійскай і рускай мовах) да 1 чэрвеня 1995 года па адрасу:

**220048, г.Мінск, вул. Калектарная, 10. Камітэт па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь. Тэлефоны для даведак: 20-51-20, 20-51-91.**

## АРГКАМІТЭТ

**міжнароднай навуковай канферэнцыі па тэме "Зарубежная архіўная беларусіка"**

МІХНЮК Уладзімір Мікалаевіч, дырэктар Беларускага навукова-даследчага цэнтра дакументазнаўства, археаграфіі і архіўнай справы (БелНДЦДААС), доктар гістарычных навук, прафесар, — старшыня.

ШАБАЛІН Аляксандр Андрэевіч, прэзідэнт Беларускай асацыяцыі клубаў ЮНЕСКА — намеснік старшыні.

# ВОБРАЗЫ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

## «Бітва...» Генрыха Ціхановіча

Сьвятлана Белая



*Генрых Ціхановіч, 1975 г.*

Крапівенскае поле. 1514 год. 8 верасьня. Раніца. Дзьве вялічэзныя арміі сыйшліся пад Оршай з адной мэтай: перамагчы. І таму барацьба ідзе не за жыцьцё, а на сьмерць. Іншага шляху няма. Колькасьць рускай коньніцы ў некалькі разоў перавышае колькасьць вояў беларусаў. Маскалі пера-сягаюць у лічбе, але ня ў сіле і мужнасьці.

Прызыўна гучаць трубы. На іх велічны зоў ляцяць, як маланкі, белыя коні. Выбухі гарматаў падбадзёрваюць коньнікаў. Яны ведаюць,што змагаюцца за Бацькаўшчыну.

На першым пляне бітвы вoi з шчытамі, на якіх вайсковы васьміканцовы крыж. Лу-наюць харугвы Пагоні і бел-чырвона-белыя сьцягі. Насупраць беларускім змагарам, як чорная хмара, выступае коньніца маскалёў. Вораг бязьлітасны. Ад крыві пачырванела рака. Але вoi з Пагоняй не здаюцца. Яны па-вінны перамагчы, каб спыніць, нарэшце, за-



бойствы, якія нясе маскаль на іхнюю зямлю. З вышыні птушынага палёту гучыць голас паэта-прарока:

*Спынім забойствы!*
*Сумленьне, і розум, і гонар*
*Уладна загадваюць кніжніку:*
*як са званіцы*
*Бі ў сваё звонкае слова,*
*узбройвай народы*
*Супраць разбою!*
*(Мікола Гусоўскі)*

Гэтыя думкі ўзьнікаюць міжволі, калі глядзіш на карціну Генрыха Ціхановіча «Бітва пад Оршай» (Гл. разварот) Творы гэтага беларускага мастака доўгі час былі вядомы толькі невялікаму колу мастакоў, мастацтвазнаўцаў і калекцыянераў. Як тлумачыць сам аўтар: «*Апошнія 30 пазаін-стытуцкіх гадоў мая творчасьць была пе-раважна плаваньнем супраць цячэньня ды яшчэ і пада льдом. Я рабіў пацэфісцкія і сюррэалістычныя творы, якія паказаць людзям было немагчыма (маглі абвінаваціць у захапленьне Захадам —С.Б.). Таксама не было надзеі, што савецкая дзяржава набудзе зь іх хоць адну. Але час ішоў, лёд мастацкай ізаляванасьці трэснуў, крыгі пачалі таяць ... І хаця невядома, куды пойдзе рэчышча ракі, але упэўнены, яна імкнецца «з глебы на простор прабіцца».*

*Працэсы адраджэньня, якія пачалі па-ступова адбывацца ў Беларусі, натхнілі мяне на стварэньне сапраўды батальнага твора. Я адчуў, што надыйшла пара зрабіць не антываенную карціну, а сапраўдную, ваенную, ухваляючы славу беларускай зброі. Так узьнікла «Бітва пад Оршай».*

Мастак маляваў карціну цэлы год. Пра-цаваў ня толькі над экспазыцыяй, струк-турай, фарбамі, але і над літаратурай. Зьбі-раў па крупіцах усё, што было надрукавана аб аршанскай бітве, аб гэтым пэрыядзе. Раіўся з гісторыкамі, дасьледчыкамі і маляваў, маляваў... Тысячы эскізаў і накі-даў! У дзень сьвяткаваньня незалежансьці Беларусі праца, нарэшце, была паказана на выстаўцы аб'яднаньня «Пагоня». Зараз палатно «Бітва пад Оршай» знаходзіцца ў пастаяннай экспазіцыі ў Нацыянальным музэі гісторыі і культуры Беларусі. І хаця ўгодкі бітвы пад Оршай беларусы сьвят-куюць каторы год у змаганьнях з амонаў-цамі, урачыстая прэзентацыя карціны ўсё-ж адбылася 29 верасьня. На ёй ня толькі мастакі, але навукоўцы, пісьменьнікі, дась-ледчыкі таго пэрыяду ў адзін голас прыз-налі, што карціна «Бітва пад Оршай» гэта сапраўдная пэрла беларускага мастацтва. Многія адзначалі, што беларусы могуць ганарыцца гэтай карцінай, якая па ма-нумэнтальнасьці, гістарычнасьці, праў-дзівасьці падобная карціне польскага мастака Матэнка «Грунвальдская бітва»

Шлях Генрыха Ціхановіча ад мастака пацэфіста да мастака баталіста быў скла-даны. Але тое, што зроблена ім ужо назаў-сёды увайшло ў скарбонку залатога фонду беларускай культуры. Наперадзе ў мастака шырокае поле. Па ім, упэўнена, пройдуць яшчэ не адзін раз вoi Канстантына Астрож-скага, у жыцьці якога было 63 перамогі над ворагам. На гэтым полі будуць перамагаць атрады Вітаўта Вялікага і Радзівіла. Тут пакажуць сваё вайсковае майстэрства, бязмежную мужнасьць, сьвятую любоў да Бацькаўшчыны славутыя змагары Тадэвуша Касьцюшкі і Кастуся Каліноўскага. Героі Генрыха Ціхановіча будуць змагацца з ворагам, каб няпраўдзе, хлусьне, падману, рабству, нарэшце, прыйшоў канец. Яны будуць змагацца, каб адрадзілася іхняя Бацькаўшчына, каб мы, іхнія нашчадкі, нарэшце, сталі свабоднымі беларусамі і больш ніколі, нідзе і ні з кім не ваявалі.

# Роднае слова

## Із агню ды ў полымя

Міхась Кавыль

Язэп Лабач ня быў аклаголікам, але любіў выпіць, калі з братам Віктарам, альбо зь сябрамі, а часам і сам з сабою, каб супакоіць нервы. І кожны раз пасьля выпіўкі яму сьніліся страшныя сны. Вось і гэты раз добра пацягнуў ён не самагонкі, а нямецкага «шнапсу», якога дзесьці раздабыла Аня і ўгасьціла. Алкаголь хутка зваліў яго ў ложак, і пачаліся начныя жахі...

Здаецца, ён сядзіць у Ваўчку зь Нінкай Катковай у іхнім садку пад грушай. Нінка туліцца да яго гарачым целам, а ён ня ведае, што яму рабіць. Нінка не вучаніца, баяцца няма чаго, а ён баіцца. Нават цалаваць баіцца, бо кахае Клашу і здраджваць ёй не жадае. А Нінка, бессаромніца, усё мацьней туліцца да яго... Язэп усхапіўся і пабег із саду да Клашкі. Прабячаючы паўз плот, бачыць каля плоту маці Клашкі з палкай у руцэ. Маці як крыкне: «Ты што гэта, нягоднік, робіш? Клашка ад цябе зацяжарыла, а ты да Нінка палез, ёй пуза набіць хочаш?»

Язэп ад перапалоху прахапіўся, агледзяўся, не ён не ў Ваўчку, здаецца. Паляжаў крыху з адчыненымі вачыма ды ізноў вочы заплюшчыліся, ізноў стала сьніцца нейкая дурніца. Здалося, як ён прыбег уночы да Васіля Васільева на кватэру ў Варонежы. Прыбег, каб той схаваў яго ад бандыдатаў, якія гналіся за ім, калі ён ішоў із інстытута. Доўга грукаў у дзьверы. Бандыты тупаюць нагамі па прыступках, а Васіль не адчыняе. І раптам дзьверы расчыніліся. Язэп бачыць Маруську, жонку Васіля. Яна ляжыць на ложку, расставіўшы ногі, а Васіль выцягвае акрываўленае дзіця із Маруські .Дзіця пішчыць, а Васіль, трымаючы яго за ножкі, б'е аб сьцяну. Маруська крычыць немым голасам...

Язэп зноў прахапіўся, сеў і схапіўся за галаў. Думаў галава рассыплецца ад болю. Прыйшоўшы крыху да сябе пачуў голас Ані:

—Чаго ты так крычаў?

Язэп расказаў свае сны і спытаў, што яны маглі-б азначаць.

—Дрэнныя сны,—сказала Аня,—дрэнныя.

Аня пайшла, а Язэп пачаў зноў засыпаць, але яго сон адагнала Аня, якая прыбегла ў пакой і сказала:

—Нехта стукае ў вакно.

Язэп выскачыў із-пад коўдры, падбег да вакна на кухню, паглядзеў, адхінуўшы фіранку, але на дварэ было цёмна, нікога не ўбачыў і спытаў голасна:

—Хто там?

—Гэта я, Васіль.

Язэп адчыніў дзьверы, запрасіў Васіля:

—Заходзь, Вася, рад цябе бачыць

Васіль пераступіў парог, кініуўся да Язэпа з ласкавымі словамі:

—Здароў, браток,— і абхапіў Язэпа сваімі доўгімі, прапахлымі потам і нейкім лясным водарам рукамі.

З сваіго пакою выйшла Аня. Васіль да яе:

—Здравствуйте, хозяюшка!

У голасе былі мірныя ноткі, хаця ён меў нямірнае заданьне. Аня прабачылася, што ёй трэба адлучыцца па справах і пайшла да суседкі Мары. Як толькі яна выйшла на двор, ёй здалося, што нехта шмыгануў за вугал іхняга дому, а пасьля нешта бухнула, нібы нешта цьвёрдае ўпала́. За вуглом была выкапана яма для сьмецьця і ўсякай непатрэбшчыны. Праходзячы каля ямы, Аня пачула нібы прыглушаныя енкі ў яме. Яна вярнулася дадому сказала пра гэта Язэпу. Ён з Аняй падыйшоў да ямы і спытаў:

—Хто тут?

Зь ямы пачуўся прыглушаны голас Валентына:

—Гэта я. Памажыце мне.

Язэп лёг, працягнуў у яму руку, за якую ухапіўся Валянтын, Аня таксама лягла і ўхапілася за рукі Валянтына. Нарэшце, выцяглі Валянтына зь сьмярдзячага бруду. Ён ня мог трымацца на нагах: ад яго несла ня толькі памыямі, але й алкаголем. Хістаючыся ў бакі, паплёўся незадачлівы Хэрлак Холмс у дом Мары. За ім паціху пайшла Аня.

Язэп вярнуўся да Васіля. Той сядзеў у прахладным пакоі, трымаў нешта ў руках. Калі зьявіўся Язэп, Васіль працягнуў яму папяровы трохкутнічак. Язэп расхіліў пакамечанае «пасланьне» Новікаа. Чытаў і думаў, што казаць Васілю. Ведаў Язэп блатняцкія замашкі Васіля, прыпомніў, як ён страляў у палітрука Канькова, калі хадзілі на прарыў, ня сумняваўся, што ён зробіць яму «сякім башка», калі адмовіцца ісьці ў лес.

—А што ў лесе?—думаў Язэп. —Таксама «сякім башка».

Прыбегла Аня, атазвала Язэпа на куханьку і шапнула:

—П'яны Валянтын чаўпе, што ён упаў у яму, калі пагнаўся за бандытам, які хаваўся ў кутку каля нашых дзвярэй.

—Добра Аня, Ідзі да Мары, а я разьбяруся.

Аня пайшла, а Язэп да Васіля:

—Ты адзін прыйшоў забіваць мяне, ці яшчэ зь кім?

У гэты час праз вакно, што выходзіла на вуліцу Карла Лібкнехта: пачулася :«Гальт», а пасьля аўтаматная чарга.

—Ну, вось, і зрабілі яму немцы «сякім башка».

—Што ты кажаш, Вася? Каму зрабілі?

—Майму «телохранителю» лейтэнанту Салаўёву. Я так думаю, што яго ўкакошылі. Каб ты, Юзік, не паглядаўна мяне, як на забойцу, я табе скажу. Салаўёва начальнік спэцатраду Аляксей Новік даў мне ў праважатыя. Як казаў Новік, ён ведае «дзюркі» ў Менску і дапаможа мне расправіцца з табою, калі ты адмовішся ісьці ў лес. А мне Клаша, тваё былое каханьне, сказала, што Салаўёў расправіцца са мною, калі я не заб'ю цябе. Я хацеў па дарозе разьлічыцца з Салаўёвым, але я ня ведаў ходоў-выхадаў у Менск, а ў Менску баяўся падымаць шухар, таму мы прыйшлі да цябе ўдваіх. Дзякуй немцам, што яны яго ўкакошылі.

—Дык ты, Вася, як я бачу рашыў памілаваць мяне?

— Не, гэта, можа не памілаваць, бо я ня зьбіраўся цябе забіваць .Мне пагражала ў лесе сьмерць. Клаша мне сказала, што мяне расстраляюць ,бо ёсьць загад Сталіна ўсіх, хто прыбяжыць ратаваць шкуру ў 1943 г. расстрэльваць.Я ня ведаў, што рабіць. Клаша сказала пачакаць, пакуль Новік не пашле мяне да цябе. Яна хітрая, дзяўчына, вынюхала ў Новіка, што тоі зьбіраецца «убраць

з дарогі сваіго канкурэнта». Новік улопаўся ў Клашу, а Клаша ўлопаная ў цябе. Ён пра гэта ведае і стараецца. Вось такая чаратаўшчына са мной атрымалася.

—Бачу, Вася,што нашае сяборўства нешта для цябе значыць, але-ж мы з табою не за Маруську змагаемся, за якую ты мяне калісь паласануў фінкай па носе, а змагаемся за ідэю.

—Не, Юзік. Я змагаюся за Маруську. Я табе ў Ковелі ў лягеры сказаў, што із-за свае Муркі я зраблю з табою «тры крокі наперад». Я парашыў тады: як толькі прыеду ў Менск, адразу ўцяку ў партызаны. Але ня ведаю,чаму ня ўцёк. Каляда, Салаўёў, Каська, як толькі прыехалі ў Вілейку, адразу шмыганулі. Тады, вясною сорак трэцяга году, загаду Сталіна яшчэ не было, бо-ж Салаўёва не расстралялі, да лейтэнанта даслужыўся. А я запіўся, пра Мурку забыўся, а пасьля надумаўся «искупить свою вину». І вось , іскупляю. Прыйшоў да цябе, браце, ратаваць сваё жыцьцё. Клаша прасіла цябе, каб ты дапамог мне ўратавацца. А ты, як сабе хочаш: можаш уратаваць, калі мяеш магчымасьць, а можаш аддаць немцам

—Перастань, Вася, бузацёрыць. Немцам я цябе не аддам на расправу, але не аддам ім прыслужвацца. Каб пабачыць сваю Мурку, ты можаш служыць Расеі.

—Не разумею.

—Няма чаго разумець. Ёсьць армія генэрала Уласава, так званая «Русская Освободительная Армия», якая змагаецца з бальшавікамі за вольную Расею. Ідзі туды.

Васіль пачухаў патыліцу, скрывіўся і запытаў:

—А хіба туды прымаюць былых партызанаў?

Язэп засьмяяўся, але адказаў паважна:

—А хіба ў цябе на ілбу напісана, што ты быў у партызанах?

Васіль маўчаў, а Язэп працягваў:

—Аўсвайс да якога году ў цябе дзейсны?

—Да 1944 году.

—Вось і лады. Пра тваю партызнаку будзем ведаць толькі мы з табою. Уласаў ня пойдзе ў лес да Новіка наводзіць пра цябе спраўкі. Дык, згодзен служыць Расеі?

Васіль працягнуў Язэпу руку і моцна пацісьнуў. Пацікаючы Васілёву руку, Язэп спытаў:

—Галодны?

—Як воўк.

Калі селі за стол, выпілі «шнапсу» бабкі Анюты, і закусілі галубцамі і белым хлебам з маргарынам, Васіль спытаў:

—А куды я мушу зьвярнуцца, каб стаць «уласаўцам?»

— А маю адну добра знаёмую дзяўчыну, Я табе, здаецца, расказваў на фроньце ў Малой Шабялінцы, пра яе, пра Майю, якая мяне падкармляла ў вагоне, як я вяртаўся із канцлягеру?

—Памятаю, як сядзелі на прызьбе і ты расказваў пра свае любоўныя пахаджэньні.

—Дык бацька гэтай Майі, ня бацька, а айчым. Бацьку яе расстралялі тады, як забілі Кірава.

—І майго тады-ж расстралялі.

—Так, Вася, шмат Сталін зьліквідаваў «ворагаў народу» —славу і гонар Расеі, Беларусі й іншых народаў. Дык вось, айчым Майі служыць у РОА. Ён генэрал, знаходзіцца зараз у Менску, ня ведаю па якой прычыне. Ды гэта ня важна. Майя абяцала прыйсьці да мяне не сяготньня дык заўтра, і я яе папрашу, каб яна пагутарыла з сваім айчымам. Думаю, усё будзе «гут», як кажуць немцы.

Два дні прачакалі Язэп і Вася на Майю. Яна усё-ж прыйшла, пазнамёмілася з Васілём і паабяцала ўсё ўладзіць.

На другі дзень Майя ўвечары забрала Васіля да сябе. Язэп пажартаваў : «Вы хоць не закахайцеся, пакуль разьвітаецеся». Майя паслала Язэпу паветраны пацалунак, а Васіль абняў Майю і пацалаваў у скронь. Іх ахутаў вечар цёмным пакрывалам.

Аня, як толькі прыходзіла Майя, уцякала «па справах» да Мары. А ў гэтай справе была ўтоена рэўнасьць. Ёй Язэп стаў залазіць у сэрца. Яна ня ведала, хто такая Майя, і хто такі Васіль. Язэп з Васілём яе пазнаёміў, але, калі Язэп сказаў, што Васіль прыехаў да яго зь Вілейкі, пад'ялдычыла:

— А хіба ў Вілейцы няма парыкмахерскіх, што Васіль аброс валасамі, як мартышка?

Васіль сумеўся, але знайшоўся:

—У Вілейцы ёсьць пара гэтых самых салонаў, дзе робяць «стрыжку-брыжку» і завіўку валасоў, але там абслугоўваюць толькі асобаў арыйскай расы.

Аня не паверыла, але ў Язэпа не дапыталася, бо яе ня так абыходзіў Васіль, як Майя, але пра Майю яна не распытвала, затаіўшы «ганаровае маўчаньне».

Гэтым-жа вечарам нечакана прыпёрся Валянтын пабалакаць, бо даўно ня бачыліся. Язэп ня вельмі па ім сумаваў, але задзірацца з сваім «хвосьцікам» было рызыкоўна, а таму Язэп запрасіў прысесьць і спытаў:

—А дзе-ж твая звонкая гітара? Раней-жа ты і мяне, і Косьціка, і Сашку, і Якоба, і сваю «хозяйку» Марыю весяліў, а апошні час—маўкліня.

—Не, памыляешся, Язэп. Я і зараз часам весялю ня толькі Марыю, але і цябе.

—Штосьці я ня чуў твае «весялосьці».

—Бо дрэнна прыслухоўваешся. Каб не мая музыка, па табе даўно-б зайгралі з аўтамата «мсьціўцы». Зь цябе, братуха, прычытаецца.

—Штосьці да мяне не даходзіць, Валя, твае рэбусы. Можна канкрэтней?

—Канкрэтней? Будзь асьцярожны. За табою палююць партызаны.

—Вось як? І ты ўпаляваў аднаго зь іх? Валянтын паказаў рукою на пакой Ані, дзе яна нешта страчыла на «Зінгеры» і прыклаў пальцы да вуснаў, а адняўшы руку, прамовіў сярдзіта:

—А хто я, каб паляваць за партызанамі?

Аня, перстаўшы страчыць:

—А чаго-ж ты ў мусарную яму заляцеў?

—А гэта алкаголь-нячысьцік мяне туды пхнуў...

Усе засьмяяліся, Аня выйшла з сукенкай у руках, сказала, што мусіць аднесьці Мары, і выйшла. Язэп падумаў: «Ці не ўпаляваў ён Васіля з Майяй, як яны ішлі ад мяне?»

Распытаць рашыў пасьля таго, як алкаголь разьвяжа яму язык. Валянтын узяў на стале «Беларускую газэту», пакруціў у руках і паклаў назад, кажучы: «Пахне нацыяналізмам». Язэп ледзь не ўзарваўся, але стрымаўся і абзываючы пра сябе Валянтына «рабым цюцькам» пайшоў да бабакі Анюты за «шнапсам».

Дом, дзе жыла бабка Анюта, быў чацьвёртым ад Анінага. Хаця Язэп меў начны пропуск, але добра ўглядаўся ў шэры туман, каб не напароцца на «фрыцаў», якія часта замест«гальт» лупяць із аўтаматаў. Прабраўся ён да бабкі хутка. Дзьверы бабкі звычайна былі незамкнутыя, бо яна недачувала і магла не пачуць наведвальнікавага стуку і згубіць пакупніка яе «шнапсу». На гэты раз Язэпу давялося доўга стукаць, але бабка не адчыняла. Ён падыйшоў да вакна, прысухаўся. У хаце быў нейкі шухар-махар, чуўся нібы плач, нібы енк нейкай дзяўчыны. Голас паказаўся Язэпу ужо недзе чуты. Голас, падобны на Клашын.

«Але што гэта са мною?,—схамянуўся Язэп. Сплю я ці што? І стаў мацней грукаць ня ў дзьверы, а ў вакнко Неўзабаве дзьверы

заскрыпелі, прыадчыніліся і пачуўся хрыплы голас бабкі:

—Хто гэта?

—Гэта я, цётка Анюта, ваш сусед і пакупнік гарэлкі Язэп.

—Колькі ты хочаш, паўлітра ці?

—Паўлітра.

—Пачакай, я зараз, — і дзьверы зачыніліся.

—Што-б гэта магло азначаць?—падумаў Язэп. —Ці не партызанку якую яна хавае? У яе-ж ажно тры сыны на фроньце. Усё можа быць. А верагодней якаясь курва захварэла. Яна-ж і гэтым «промыслам» займаецца, бо-ж ня мае з чаго жыць. Адзін раз бабка й яму «сватала» прыгожую дзяўчыну, але Язэп, папярэджаны калісьці Мікалаем Арочкай, ад прыгажунькі адмовіўся.

Дзьверы ізноў заскрыпелі, бабка высунула із-за дзьвярэй гарлавіну пляшкі і руку. Язэп паклаў у руку маркі, узяўся за горлышка, але бабка аддала назад маркі і папрасіла:

—Можа ты маеш марлю і ёд, дык прынясе зараз-жа.

—Добра, я пастараюся дастаць, — і Язэп пасьпяшыў дадому, думаючы, дзе-б дастаць гэтыя ёд ды марлю. Ведаў ён, што ў Ані ў шкафчыку стаіць бутэлька ёду, а вось, як быць з марляй, ня мог дакумекацца. Пытацца ў Валянтына небясьпечна: можа, бабка лечыць якуюсь партызанку.

Язэп не памыляўся.

—А хто гэта прыходзіў?—спытала дзяўчына ў бабкі.

—А гэта сусед. Брат таго Віктара, што ўчора быў тут з тым хлопцам, што цябе прывёз да Віктара.

— А ён прыйдзе яшчэ?

—Мусіць прыйсьці. Ён прынясе лякарствы.

Язэп зайшоў на куханьку, ўзяў, у шкафчыку ёд, сказаў Валянтыну пачакаць, бо ён забыў узяць грошы, паставіў фляшку на стол і пасьпяшыў да бабкі. На грук Язэпа бабка адчыніла дзверы і сказала: «Заходзь».

Язэп затрымаўся на куханьцы, аддаў бабцы ёд, а за марлю папрасіў прабачэньня. Дзяўчына, пачуўшы гутарку на куханьцы, нацягнула на голаў коўдру, схапілася за жывот, бо нешта моцна забалела ў ёй. Бабка паказала Язэпу рукою на спальню і сказала: «Ідзі туды! Там цябе хоча бачыць прыгожая цыганачка». Язэп паціху, каб не разбудзіць, як ён думаў, тую цыганачку ціхутка ўзяўся за край коўдры на галаве дзяўчыны, прынадхіліў і ўскрыкнуў:

—Клаша!

Бíхматыя чмялі расплюшчыліся. Бліснулі іскаркі сьлёз. «Чмялі» ізноў заплюшчыліся. Язэп прыпаў да гарачых вуснаў. Бабка схапіла яго за руку, выпіхнула за дзьверы.

—Заўтра прыйдзеш, —і замкнула дзьверы. Як п'яны паплёўся Язэп дамоў, прамаўляючы ў думках: «Цыганачка-расіяначка, цыганачка-расіяначака, што прывяло цябе да бабкі: параніліі цябе ці яшчэ што?»

У хаце Валянтына ня было. Амаль трэцяя частка бутэлькі была адпітая.

«Няўжо ізноў заваліўся ў яму?» —падумалася Язэпу. Выйшаў на двор, падыйшоў да ямы, ціха завярнуўся і пайшоў у хату. Неўзабаве вярнулася ад суседкі Аня.

—Валянтын у Марыі? —сустрэў Аню пытаньнем.

—Не, ня бачыла. А што?

—Ды нічога. Быў тут ды сплыў.

—Можа ізноў у яме?

—Я слухаў, нічога ня чуваць.

—Пачакай, я зьбегаю да Марыі. Можа я не дагледзела?

Аня зьбегала і хутка вярнулася з паведамленьнем, што Валянтын пад градусам толькі што прыйшоў. Язэп пацягнуў із горлышка сьмярдзючкі, прапанаваў Ані, але яна махнула адмоўна рукою і зачынілася ў сваім пакоі. Язэп доўга качаўся ня мог заснуць: Клаша ня выходзіла із галавы. Нарэшце, заснуў і асядлаў яго сон-прывід: крычыць Клашка ў яме. Ён падбег, схапіў за касу, хоча выцягнуць, але ня можа даць рады, бо нехта трымае яе за ногі. Прыгледзеўся—Валянтын. «Пускай, паскудная твая морда!» — крычыць Язэп, але Валянтын ня слухае. Клашка-ж просіць: «Ратуй мяне, даражэнькі, ратуй!»

Прахапіўся Язэп, зірнуў на ходзікі: восем гадзінаў раніцы. Аня яшчэ не ўставала. Язэп таксама ня мог раскатарархацца. Ляжаў і ня мог уцямніць, ці ён сапраўды быў учора ў бабкі, ці гэта яму прысьнілася. Піхнуў нагамі коўдру, пайшоў на куханьку, спаласнуў твар студзёнай вадой. Дайшло да яго мазгавенькі, што ўсё-ж быў у бабкі, бачыў Клашу, цалаваў у сініх пакусаныя вусны. Хапіўся: «Бабка казала прыйсьці заўтра». Хуценька напяліў падараваныя Аняй штаны ,белую кашулю і, сунуўшы ногі у старэнькія туфлі, паціху пасьпяшыў да бабкі. Пасьпяшаць яго прымушалі не пачуцьці, а цікавасьць даведацца, як Клашка трапіла да бабкі, чаго ляжыць у ложку. Час—няўмольны канкурэнт. Ён адбірае пачуцьці, ахаладжвае сэрца да былой, дарагой, без якой ня мог і дня пражыць, калі не пабачыцца, не абдыме. А яшчэ каб хутчэй вывятрылася хвароба, якая называецца каханьнем, падсуне час новае стварэньне, такое-ж прыгожае, як і першае, чыстае, нікім не цалаванае. А што яшчэ не малаважнае —стварэньне, у якім бурліць такая-ж кроў, як у цябе, якое гарыць тымжа бел-чырвона-белым агнём. «Не, што ні кажы, але Майя для мяне бліжэйшая, а можа і даражэйшая за Клашу. Шкада; што Васіль дзесь далёка. Можа, я ўсватаў-бы яму «Цыганачку-расеяначку». Хаця, што я плявузгаю? Мае яна лясного хахаля і без Васіля, і без мяне. Такія прыгожыя стварэньні ялаўкамі ня ходзяць. А яшчэ ў пушчы, дзе кожны кусьцік кліча прылегчы ў цяньку, забыцца пра смяротную небясьпеку, адчуць хоць і зь нялюбым чалавекам экстаз маладога жыцьця»

З такімі думкамі наблізіўся Язэп да дзьвярэй бабкінага дому і пагрукаў. Доўга грукаў, але бабка не адчыняла. Грук пачулі ў суседнім доме. Адчынілася вакно, маладая кабеціна высунула голаў і сказала:

— Бабку Анюту ўночы арыштавалі

—Самую бабку ці яшчэ каго?—вырвалася ў Язэпа.

—Яшчэ якуюсь дзяўчыну, мабыць, партызанку.

—А як тая дзяўчына сама ішла ці яе несьлі?

—А мы ня бачылі.

Вакно зачынілася. Язэп не пасьпеў нешта спытаць, а што, і сам ня ведаў. Ды пытаць не патрэбна было: каго-ж яшчэ маглі арыштаваць апрача Клашы? Неяк балюча запякло ў Язэп каля сэрца. Шкада стала Клашку, вельмі шкада. Пакавыляў ён дамоў, хадзіў із кутка ў куток, пагляда ў на талерку «ляўшпрэхера», спадзяючыся пачуць паведамленьне пра арышт бабкі Анюты і Клашы. Не дачакаўся, выключыў радыё і пайшоў да Віктара. Хаця было яшчэ ранавата, але Віктар быў дома, Вера, бадай, яшчэ спала.

—Што новага? —павітаўшыся, спытаў Язэп.

—Садзіся!—адказаў Віктар. Дастаў пляшку, паставіў на стол, прынёс шклянку, хлеб, каўбасу. Рабіў ён усё гэта неяк пасьпешліва, нэрвова, стараючыся не глядзець Язэпу ў вочы, быццам быў у нечым вінаваты. Язэп, бачачы нехарактэрную для

Віктара несамавітасьць, спытаў: «З табою ўсё ў парадку?» Віктар прысеў насупраць Язэпа, напоўніў смагонкай шклянкі, махнуў над сталом шклянкай, што азначала «будзь здароў» і прыгубіў, але ня выпіў усё, паставіў шклянку і сказаў:

—Чорці што тварыцца.

Язэп таксама зрабіў толькі глыток і спытаў:

—З табою чорці што тварыцца ці наагул?

—І са мною, і наогул. Але давай не дапытвайся. Выпі вось і мне трэба быць у адным мейсцы, неадкладна.

Віктар вылез із-за стала. Язэп глытнуў самагонку і падаў Віктару руку. На двары, Язэпу стукнула ў галаў спытаць у брата, ці ведае ён пра арышт бабкі. Вярнуўся, спытаў, Віктар зачырванеўся,адказаў: «Не, ня чуў».

Язэп, пакуль дайшоў да кватэры, усё думаў: «Хто-ж выдаў бабку і Клашу?» Адказ ён атрымаў ад Яраслава, якога спаткаў каля сваёй кватэры. На пытаньне Язэпа, што новага, Яраслаў адказаў:

—Пазаўчора я езьдзіў у лес. Манька і два партызаны прывялі да мяне нейкую прыгожую партызнаку, і Манька сказала, каб я завёў яе да бабкі Анюты. Я запхнуў яе сабе пад ногі і правёз у Менск. Па дарозе дзяўчына пытала, ці ведаю я цябе. Я сказаў, што ведаю. Яна прасіла мяне, каб я сказаў табе, каб ты праз якіх чатыры-пяць дзён прыйшоў да бабкі Анюты. Я ня мог гэта зрабіць да сёньняшняга дня, бо Віктар мне прыказаў нічога табе не казаць. Віктар быў у бабкі, калі я прывёў у хату дзяўчыну. Мяне зацікавіла, чаму Віктар так сказаў, і я прыйшоў да цябе.

—А ты не заходзіў да бабкі?

—Не, думаў зайсьці. А што?

—Бабку Анюту і тую дзяўчыну, маё першае каханьне, арыштавалі сягоньня ноччу.

—Я так і думаў.

—Што ты думаў?

— А тое, што Віктар пастараецца атрымаць «данкішэ».

—І я так думаю, але-ж , як кажуць, не злавіў за руку, не кажы «злодзей».

—Злодзей ня злодзей, але жонка Віктаравага суседа, былога савецкага пракурора, жалілася мне, што Віктар выдаў яе мужа.

—А як яна даведалася, што Віктар выдаў?

—Яна кажа, што перад арыштам яе Сяргей сварыўся зь Віктарам і той пагражаў.

—Ну гэта яшчэ ня доказ, ды ўсё-ж пільнуй. Я баюся за тваю сястру Маньку.

—Мне ўжо высьцярагацца позна. Ён ведае, што я прывожу Маньку. А яшчэ гэтую дзяўчыну.

—Будзем спадзявацца, што ён не звар'яцее, каб выдаваць сваіх.

—Хто яго ведае.

На тым яны разыйшліся. Праз які тыдзень Яраслаў ізноў прывёз сястру. Яе Новік паслаў праверыць як справы з Клашай. Яраслаў і прасіў і крычаў на Маню, каб ня ішла да Віктара, але яна была неўгамонная рызыкантка, тлумачыла Яраславу і папракала: «Твая цаца ня хоча пушчаць у ваш чысьцюткі дом вшывую партызанку, дык дзе я мушу начаваць, пад плотам?»

Яраслаў пабаяўся сказаць сястры, што Віктар прадацель, бо ня быў упэўнены ў гэтым, а Манька магла зь Віктарам расправіцца.

І Манька пайшла да Віктара. Віктар хацеў яе выгнаць, але заступілася Вера. У яе быў дзень народзінаў, і яна ўгаварыла Віктара. На імянінах нікога не было, толькі Віктар і Вера, ня лічачы маленькай Розы. Язэпа Вера не хацела запрашаць. Яны якраз уселіся за стол, прымасьцілі ў куце і Маньку. Яна была галодная, а таму накінулася на капусту з каўбасой. Наліваючы ў шклянку «шнапс» бабкі Анюты, Віктар ўспомніў яе словамі:

— Спэцыялістка была бабка Анюта, на ўсе рукі была спэцыялістка.

Манька схапіла слова «была» і запытала Віктара:

—Чаму ты сказаў была?

—Таму, што ўплыла. Арыштавалі бабку.

Манька выскачыла із-за стала і кінулася да дзьвярэй, але ў дзьвярях яе сустрэў начальнік Смаленскага СД Анупрэйчык. Ён быў у цывільным касьцюме. Манька думала, што прыйшоў нейкі госьць, хацела прашмыгнуць паз яго, але Анупрэйчык узяў яе за руку, прывёў да стла, сказаў Віктару напоўніць шклянкі. Манька стаяла і калацілася. Анупрэйчык даў ёй шклянку, узяў другую і сказаў: «Вып'ем, партызанка, за таварыша Сталіна». Шклянка із рукі Манькі бразнулася аб падлогу. Манька зашаталася і грымнула на зямлю. Анупрэйчых махнуў сваім хлопцам, што стаялі з наганамі у руках у дзьвярах. Яны падхапілі Маньку пад рукі і павалаклі.

Анупрэйчык выпіў самагонку, сказаў Віктару й Яраславу: «Следуйте за мной!»

Вера загаласіла і пабегла ў другі пакой да дачушкі, якая таксама заплакала. Віктара адпусьцілі у той-жа вечар. Яраслава пратрымалі з тыдзень, але таксама адпусьцілі, бо СД ня мела вестак, што Яраслаў прывозіў Маньку ў Менск.

Маньку прыпільнаваў Валянтын, калі яна ішла да Віктара. Ішла яна адна. Валянтын «вынюхаў», што гэта лясная зязюлечка, бо ўсіх менскіх зязюляк ён добра ведаў, ні на адну зь іх Манька не была падобная. Ня доўга думаючы, ён пабег на вуліцу Астроўскага, паведаміў Анупрэйчыка. Гэты Шэрлак Холмс быў пару разоў у Віктара, ведаў, што у яго маецца галасістая сучка, а падымаць голас баяўся, бо Манька магла спахапіцца і драпануць альбо пусьціць у ход зброю. Ды і Віктару Анупрэйчык не давяраў. Таму, ведаючы, што Манька мае брата Яраслава, маючы яго адрас, Анупрэйчык арыштаваў Яраслава, загадаў яму пайсьці зь ім да Віктара, адчыніць брамку і ціхутка надзець на сабаку намызьнік. Анупрэйчык ведаў, што сабака на Яраслава ня брэша, лічыць яго сваім. Аб гэтым данёс Анупрэйчыку Валянтын. І Яраслаў выканаў загад Анупрэйчыка.

Спаткаўшыся зь Язэпам пасьля гэтага, Яраслаў сказаў яму пра арышт сястры ды пра тое, як яе аршытоўвалі. Пра надзяваньне намызьніка сучцы Віктара прамаўчаў. Пра гэта расьпісваў з гневам Віктар, калі Язэп пайшоў да яго пасьля гутаркі зь Яраславам спытаць, чаму Анупрэйчык яго выпусьціў. За сувязь з партызанамі не выпускалі, а пускалі кулю ў лоб. Віктар тлумачыў, што ён апраўдваўся тым, што ня ведаў, што Манька была партызанка, што ён першы раз яе бачыў. Анупрэйчык паверыў, раздобрыўся і выпусьціў.

«Свежо предание да верится с трудом», — сказаў яму Язэп, але болей распытваць не стаў.

*(Працяг будзе)*

# Зь лягерных вершаў

Андрэй Чэмер

*Пісьмо да сястры*

Ты пішаш мне з Наваградзкай зямлі,
Што ўжо сьнягі там заляглі.
Што нелады ў нашай хаце
І цяжка захварэла маці...

А мне тут трэба каратаць
На поўначы далёкай дні,
Няпэўных перамен чакаць
Здалёк ад дому і радні.
Пад шум ідзікі сьвіст пургі
І пад марозаў люты трэск,
Цераз бязьмежныя сьнягі
Уралу наглядаю блеск.
І цяжкай думаю абняты
Для чужакоў будую хаты.

Я целам з голаду аслаб.
Аднак усьцяж я духам дужы!
Хоць у няволі —ды не раб,
Перажыву і зьдзек, і сьцюжы.

Павер! Ня трачу ні надзеі,
Ні цьвёрдай і нязломнай веры,
Што гістарычныя падзеі
Адчыняць нам на волю дзьверы!

Калёна №11

Гучыць штодзенная каманда:
«На вахту первая бригада!»
І сунуцца рабоў калёны,
Глытнуўшы сьлёзы іпраклёны.

Зьнямоглы з голаду мужык
Да крыку, лаянкі прывык.
«Шаг налево, шаг направо на пути хождения
И конвой стреляет прямо
Без предупреждения!»



Як ад слабасьці спаткнешся
Ды нарушыш зэкаў строй,
Ведай: кроўю захлынешся,
Ці пастух ты, ці герой.

Хоць мароз за пяцьдзесят,
Гоняць зэкаў на работу.
Тут няма ніякіх сьвят,—
Не шкада крыві і поту.

Беларус, грузін, ці голядзь
Берагуць свае насы.
Жме мароз, кругом скуголяць
Аўтаматчыкі і псы.

Пурга ў тундры сьвішча, вые,
Сьнег завальвае пячору.
Сэрца плача, душа ные,
Мы дзяўбём мёрзлую гору.

Пад намі тоўстыя пласты
Як камень вечнай мерзлату.
Зьвініць кірка, жалезны лом,
Сьляпіць пурга, а мы дзяўбём.

І шлях да Варкуты прабілі,
Бо ак надумаў Джугашвілі.
Шмат нас памёрла? Не бяда!
Важнейшы вугаль і руда!

Так да магілы мы ідзём,
А сэрца жаліцца балюча,
Бо ўсё лапоча над Крамлём
Чырвона—лжывая гануча.

Яна распухла ад крыві,
Ад зьдзеку прахадзімца—ката
Не памірай, мой брат! Жыві!
Надыйдзе праўда і расплата!

Ханавей —Варкута (Комі), 1950 і 1952 г.

# Далёкае і блізкае

## Спадчына «Спадчыны»

Сьвятлана Менская

*Як пальцы аднае рукі—*
*Мы, беларусы, сябрукі.*
*Павінны мы зьбірацца там—*
*Дзе Божы дух,*
*Дзе Божы храм.*
*У «Спадчыне» мы назаўжды*
*Не разьяднаць да сьмерці.*
*Каго хрысьцілі на Дзяды*
*З таго той знак ня сьцерці.*

Гэтыя словы Паўла Марціновіча ня раз гучалі на прэзэнтацыі альманаху «Спадчына «Спадчыны», выдадзенага з нагоды 10-годзьдзя менскага грамадзка-асьветніцкага клюбу «Спадчына». Прэзэнтацыя альманаху адбылася 30 лістапада 1994 г. у музэі Янкі Купалы. Як заўважыла загадчыца аддзелу музэя Янкі Купалы сп. Ларыса Астаткевіч, хаця ў залі, дзе адбывалася прэзэнтацыя альманаху, праводзілася нямала сустрэч зь цікавымі людзьмі, але столькі шаноўных прадстаўнікоў беларускага грамадзтва, якія прыйшлі на юбілейную імпрэзу, яна ня бачыла яшчэ ніколі. Навукоўцы, кампазітары, мастакі, сьпевакі прыйшлі ня толькі каб выказаць сваю пашану да клюбу й яго арганізатара і старшыні Анатоля Белага, але каб яшчэ раз узгадаць нялёгкі час станаўленьня новай хвалі беларускага Адраджэньня, ля вытокаў якой стаяў клюб.

—Здавалася-б, 10 гадоў у гісторыі —гэта ня так і многа,—сказаў на прэзэнтацыі альманаху прэзыдэнт Згуртаваньня Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына» Радзім Гарэцкі.— Але за гэтыя гады клюбам «Спадчына» зроблена вельмі шмат. Успомніце Беларусь і беларускую сьвядомасьць дзесяць гадоў назад. Тады нават падумаць было страшна, што мы хочам адрадзіць сваю мову, культуру, гісторыю, дзяржаву. І на той час клюб «Спадчына» вёў вялікую працу ў беларускім Адраджэньні. Зьбіраў і гуртаваў вакол сябе сапраўдных патрыётаў Беларусі. Будзіў грамадзкую думку, пашыраў рэчышча нашага адраджэньня. Сёньня нашае адраджэньне гэта ўжо не ручай, а рака, якая дае нам аптымізм, што мы адродзімся. Я веру, што клюб «Спадчына» будзе працягваць сваю вялікую справу па адраджэньню нашай Бацькаўшчыны, і жадаю яму вялікіх посьпехаў у гэтай справе.

—Час, калі ствараўся клюб «Спадчына», —адзначыў рэдактар газэты «Набат» Васіль Якавенка,—быў часам зьяўленьня ідэяў адраджэньня. Часам пераходу ад думак да дзеяньня. І клюб «Спадчына» паклаў нямала намаганьняў для гэтага. Нашыя сьцяжынкі з Анатолем Белым на шляху Адраджэньня Бацькаўшчыны у той час ішлі паралельна. Я ведаў пра яго як добрага арганізатара і кіраўніка, бунтара. Таксама чуў і пра рэакцыю чыноўнікаў, выкліканую ягонай бурнай дзейнасьцю. Таму артыкул, зьмешчаны ў сёньняшнім нумары «Набата», які выйшаў у сьвет спэцыяльна на дзень раней, так і называецца «Дзівакі ўпрыгожваюць сьвет». У вачах чыноўнікаў Анатоль Белы зь ягонай самаадданасьцю быў сапраўдным дзіваком, у вачах наменклатуры— «злачынцам». Але такія людзі як старшыня клюбу «Спадчына» былі і ёсьць цьвікамі нашага Адраджэньня.

—10 гадоў існаваньня клюбу,—сказаў у сваім выступленьні заступнік старшыні Народнага Фронту Юры Хадыка, —вымагае вялікай працы. І ў гэтым вялікая заслуга яго арганізатара. Гартаючы альманах «Спадчына «Спадчыне», я пераканаўся, што вы гуртуеце вакол сябе людзей таленавітых. І я лічу, што вы робіце неабходную справу. Мне асабліва больна глядзець на нашае тэлебачаньне. Нас зноў апранаюць у доўгія кашулі і лапці. Таму працягвайце сваю справу. Ідзіце ў народ, на прадпрыемствы. Толькі нашымі агульнымі намаганьнямі мы зможам адрадзіць нашу спадчыну, абудзіць наш народ.

—У наш час выдаць кніжку вельмі нялегка, —заўважыў гісторык Леанід Лыч. — Відаць, лягчэй пабудаваць камерцыйную краму на праспэкце Фр.Скарыны, чым ажыцьцявіць выданьне нацыянальнага характару. А нам такія кніжкі патрэбны. Калі падсумаваць літаратуру, якая выходзіць у падтрымку нацыянальнай ідэі тую, якая разбурае яе, разбэшчвае нашую моладзь, то апошняя катэгорыя значна перавышае першую, так патрэбную нашаму адраджэньню. Таму я прапаноўваю гэтую добрую традыцыю выданьня кніжак з нагоды юбілею прадоўжыць і не чакаць, калі праляцяць наступныя 10 гадоў, а пачынаць рыхтваць выданьне ўжо сёньня.

—Клюб «Спадчына»,—падкрэсьліла старшыня рады Згуртаваньня Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына» Ганна Сурмач, —амаль равесьнік новай хвалі беларускага Адраджэньня. 1984 год — гэта год стварэньня многіх арганізацыяў. А ці многія зь іх засталіся на сёньняшні дзень і сталі як клюб «Спадчына» адметнай зьявай у нашым культурным, грамадзкім і палітычным жыцьці? Сёньня цяжка ўявіць бяз клюбу «Спадчына» правядзеньне нейкага значнага мерапрыемства ў нашым жыцьці. Сьвяткавалі 74-я ўгодкі Слуцкага паўстаньня. Было холадна, ішоў дождж. Сапраўды мала народу паехала ў Семежава. А як прыехалі на месца, выйшлі са сьцягамі й адразу ўбачылі спадчынцаў. 10 гадоў жыцьця клюбу гэта вельмі вялікі тэрмін. Я лічу, што клюб як адраджэнская арганізацыя адбыўся і надалей будзе самаахвярна працаваць на карысьць Бацькаўшчыны.

—Што я асабліва люблю ў гэтай арганізацыі, —працягвала Ганна Сурмач, —так тое, што «Спадчына» гэта сапраўдны клюб, які ня толькі зьбірае таленавітых людзей, але дае мажлівасьць рэалізаваць ім свае здабыткі. Спадчынцы не замыкаюцца ў сваім асяродзьдзі, яны адны зь першых пайшлі ў народ. Памятаю, як два гады назад да мяне патэлефанаваў Анатоль Белы і прапанаваў паехаць калядаваць у Лагойскі раён. Нам трэба вучыцца гэтаму ўменьню гуртаваць людзей.

Як старшыня рады Згуртаваньня Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына» я хачу адзначыць, што гэтая арганізацыя адна зь першых пашырыла сваю дзейнасьць ня толькі на Бацькаўшыне, але і ў замежжы. Мы ведаем, што менавіта адсюль узьнік часопіс «Полацак», які выдае ў Кліўленьдзе Сьвятлана Белая. Часопіс гэты існуе, мае свой кірунак на будучыню і дай Божа яму і ў далейшым працаваць, а клюбу «Спадчына» і далей разьвіваць свае сувязі зь беларусамі замежжа.

—10 год гэта узорст юнацкі, — лічыць мастак Міхась Карпук.— Мне пашчасьціла з самага пачатку прысутнічаць на пасе-

джаньнях клюбу, слухаць выступленьні вядомых гісторыкаў, навукоўцаў: Леаніда Лыча, Язэпа Юхо, Адама Мальдзіса, а таксама сустракацца ў клюбе з нашымі беларусамі Замежжа Кастусём Мерляком, Кастусём Калошам. Тое, што я даведаўся ў клюбе пра нашую гісторыю, назаўсёды запала ў маю душу. Я лічу, што клюб «Спадчына» мусіць пашырыць прапаганду беларускай гісторыі, ён мусіць несьці ў народ праўду аб лёсе нашай дзяржавы і яе народу.

—Гісторык Мікола Ермаловіч назваў у свой час клюб «Спадчына» ўнівэрсытэтам, — узгадаў адзін з старэйшых сябраў клюбу «Спадчына» Аўген Гучок. — І гэта сапраўды так. Многа ведаў можна набыць у «Спадчыне». Хачу сказаць некалькі словаў пра Анатоля Белага. Столькі яго за клюб «Спадчына» цягалі па самых розных інстанцыях, столькі паклёпаў на яго пісалі, столькі яму прыходзілася вытрымліваць ад розных чыноўнікаў і ворганаў... Другі на ягоным месцы даўно апусьціў-бы рукі, а ён гэтую лямку цягнуў і цягнуў. І мы да яго цягнуліся і дапамагалі яму як маглі.

—Дзейнасьць клюбу «Спадчына» гэта значная падзея у нашай гісторыі і клюб «Спадчына» заслугоўвае самай высокай пахвалы, —ахарактэрызаваў клюб і ягоную дзейнасьць Мікола Ермаловіч. — Асабіста я сам многім абавязаны клюбу. Трэба сказаць, што сваё баявое крышчэньне я атрымаў менавіта ў клюбе «Спадчына». У 1985 г. старшыня клюбу «Спадчына» Анатоль Белы папрасіў мяне выступіць на паседжаньні клюбу. Вечарам за дзень да выступленьня да мяне прыйшоў супрацоўнік КДБ і сказаў:

—Да нас дайшлі зьвесткі, што вы будзеце выступаць на паседжаньні клюбу «Спадчына». А што вы будзеце там гаварыць: інтэрв'ю даваць ці што?

Я адказаў, што я буду чытаць навуковы даклад і паказаў «госьцю» плян майго выступленьня. Ужо тады я зразумеў пад якім пільным наглядам знаходзіўся клюб «Спадчына» і я асабіста, як усё рабілася,каб нам перашкодзіць. Трэба прызнацца, што маё выступленьне спрычынілася да тых шматлікіх абвінавачваньняў клюбу ў нацыяналізме, і тых ярлыкоў, які перашкаджалі клюбу змагацца за нашае адраджэньне. Але клюб жыў і перамагаў Я таксама перажыў гэты час і шматлікія цяжкасьці. І праца мая дайшла да чытача. Будзем спадзявацца, што клуб і надалей будзе жыць. Таму што будзе жыць клюб «Спадчына», будзе жыць Беларусь!

Янка Жучка, прадстаўнік беларускай эміграцыі ў Бельгіі, з болем адзначыў, што ён з маленства бачыў, як прыгнятаюць нашую мову і культуру. Але становішча амаль не зьмянілася і сёньня.

—Я ужо трэці раз на Бацькаўшчыне і мне вельмі прыкра бачыць, што беларуская мова па-ранейшаму знаходзіцца ў загоне. Таму я вітаю шчыра арганізатараў, якія вядуць адраджэньне нашай мовы, — сказаў у заключэньні сваёй прамовы сп. Жучка.

На прэзынтацыі таксама выступілі мастак Яўген Ціхановіч, старшыня суполкі Таварыства Беларускай Мовы Заводзкага раёну Мікола Лавіцкі, намесьнік старшыні Згуртаваньня Беларускіх Вайскоўцаў Алесь Станкевіч, мастак Алесь Цьвіркуноў, дачка Вінцуся Жук-Грышкевіча сп-я Аляхновіч. Быў прыняты зварот удзельнікаў вечара да старшыні Менскага гарвыканкама А.М.Герасіменка.

Пасьля прэзэнтацыі альманаху адбыўся канцэрт, у якім выступілі кампазітар Галіна Смоляк, бард Уладзімер Палупанаў, ансамбль «Вясельле».Завяршылася вечарына традыцыйным застольлем.



# Зварот

## удзельнікаў вечара, прысьвечанага 10-годзьдзю клюбу «Спадчына», да старшыні Менскага гарвыканкама А.М.Герасіменка

Менскаму грамадзка-асьветніцкаму клюбу «Спадчына» споўнілася дзесяць гадоў. Зь першага дня свайго існаваньня клюб прапагандуе ідэі нацыянальнага адраджэньня. Адным з накірункаў яго дзейнасьці зьяўляецца ўслаўленьне славутых беларусаў пры дапамозе манумэнтальнага мастацтва, як найболей дзейснага, шырока даступнага, усеахопнага сродку прапаганды. Для гэтага клюб «Спадчына», дзякуючы фундацыі асобных беларусаў, арганізацыяў і прадпрыемстваў сабраў сродкі на стварэньне высокамастацкіх помнікаў дзеячам беларускага адраджэньня, асьветы, культуры.

Былі створаны помнікі ў медзі Міколу Гусоўскаму (скульптар Уладзімер Панцылееў), Францішку Скарыне (Сяргей Адашкевіч), Кірылу Тураўскаму (Юры Платонаў), Максіму Багдановічу (Сяргей Вакар). Помнік Максіму Багдановічу ўстаноўлены 28 траўня 1994 г. на Чырвонай плошчы каля будынку колішняй гімназіі ў Яраслаўле, дзе некалі вучыўся паэт.

28 чэрвеня 1994 г. клюб «Спадчына» зьвярнуўся да Вас з прапановай перадаць астатнія помнікі ў дарунак жыхарам нашай сталіцы. На Вашаму даручэньню ў жніўні была склікана градабудаўнічая й архітэктурная камісія горада. Але на вялікі жаль, галоўны мастак гораду Канстанцін Аляксееў замест канструктыўнага вырашэньня праблемы аб устаноўцы помнікаў прапанаваў паставіць гэтыя помнікі ў двары Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Такая прапанова абраджвае нашую нацыянальную годнасьць, так як справа ідзе аб устаноўцы помнікаў самым слынным сынам Бацькаўшчыны.

У сувязі з прыняцьцём Саветам Міністраў рашэньня аб устаноўцы у г. Менску помніка Францішку Скарыне ў нашых чыноўнікаў можа ўзьнікнуць фармальная спакуса ў адмаўленьні дару клюбу «Спадчына». Але мы лічым, што ўстаноўка грандыёзнага помніка Ф.Скарыну каля Акадэміі навук ня можа служыць перашкодай для ўстаноўкі помніка гэтаму дзеячу каля галоўнага ўваходу ў Белдзяржунівэрсытэт. Па-другое, абвешчаны Саветам Міністраў помнік яшчэ трэба зрабіць, на што патрабуецца працяглы час і даволі значныя сродкі. Помнік, прапанаваны сябрам клюбу «Спадчына», ужо зроблены і даецца ў падарунак жыхарам г. Менску.

Спадзяемся, шаноўны Аляксандр Міхайлавіч, што Вы ўзьвесіце ўсе нашыя прапановы і даручыце градабудаўнічай й архітэктурнай камісіі гарвыканкама ў бліжэйшы час яшчэ раз больш уважліва падыйсьці да прапановы сяброў клюбу «Спадчына» і ўлічыць іх жаданьні.

Таксама зьвяртаемся да Вас з наступнай просьбай.

Клюб «Спадчына» мае вялікую калекцыю сучаснага беларускага мастацтва. Нагадаем, што гэта звыш за 2000 графічных твораў, 300 алейных, акварэльных, тэмперных, унікальную калекцыю твораў мэдальернага мастацтва Беларусі (звыш 500 мэдаляў,

для параўнаньня скажам, што Нацыянальны музэй Беларусі мае толькі каля 25 мэдалёў), за 70 скульптурных твораў. Клюб першы ў рэспубліцы зрабіў выстаўку мэдальернага мастацтва, выстаўкі, прысьвечаныя 500-годзьдзю Скарыны і 150-годзьдзя К.Каліноўскага,а таксама тэматычную выстаўку «Любіць Радзіму—шанаваць родную мову». Клюб ладзіў выстаўкі ня толькі ў Менску, але ў многіх буйных гарадах Беларусі, у Яраслаўлі (Расея), у Кліўленьдзе (ЗША). Выставачная падзьвіжніцкая дзейнасьць клюбу набыла шырокую вядомасьць сярод мастакоў і аматароў мастацтва ня толькі Беларусі, але Расеі й Амэрыкі. Да свайго дзесяцігодзьдзя клюб «Спадчына» падрыхтаваў дзьве выстаўкі: *«Любіць Радзіму—шанаваць родную мову»*, якая экспануецца ў Белдзяржунівэрсытэце, другая каля 300 твораў мастацтва *«Спадчына: постаці, помнікі»* зроблена для Нацыянальнага музэю гісторыі і культуры. Апошняя выстаўка ўнікальная і будзе ажыцьцеўлена таксама ўпершыню ў Беларусі.

На сёньняшні дзень творы мастацтва, якія знаходзяцца ў клюбе «Спадчына», літаральна пачынаюць выцясьняць сяброў клюбу зь яго памешканьня. Сябры «Спадчыны» ня могуць у поўную моц ажыцьцяўляць усе тыя задумы па культурна-асьветніцкай дзейнасьці, якія-б яны зьдзейсьнілі дабрачынна, маючы памяшканьне, без усялякіх дзяржаўных затрат і грашовых укладаньняў.

Таму мы просім Вас, Аляксандр Міхайлавіч, паклапаціцца аб прадастаўленьні клюбу «Спадчына» прыстойнага памяшканьня для яго дзейнасьці. Тым больш, што ў свой час Ваш заступнік А.У. Сасноўскі наведваў памяшканьне клюбу па вул. Адоеўскага 18, кор. III, кв. 43-А і абяцаў станоўча вырашыць гэтае пытаньне.

Пры выдзяленьні клюбу адпаведнага памяшканьня ён мае намер стварыць першую ў Рэспубліцы галерэю сучаснага нацыянальнага мастацтва, а таксама музэй медальернага мастацтва Беларусі. Для гэтага клюб мае ўсе мастацкія падставы.

*P.S. Пакуль матэрыял рыхтаваўся да друку, клюб «Спадчына» сумеў устанавіць гіпсавую адліўку помніка Францішку Скарыне ў фае Дома кнігі, дзе знаходзяцца галоўныя выдавецтвы Рэспублікі Беларусь. Бронзавы помнік нашаму першадрукару будзе ўстаноўлены насупраць Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь імя Францішка Скарыны.*

*Таксама вядуцца перамовы аб ўстаноўцы помніка славутаму паэту-лацiністу, дыпляматy Міколу Гусоўскаму насупраць будынка Міністэрства Замежных Справаў Рэспублікі Беларусь.*



# Рэцэнзыі й анатацыі

## Юбілей «Спадчыны»

Леанід Лыч

Ня першы год цікавіць мяне праца Менскага гарадзкога грамадзка-асьветніцкага клюбу «Спадчына». Хоць зрэдку ,але ўсё-ж, як маю час, наведваю яго мерапрыемствы. Колькі гадоў таму выступаў перад спадчынцамі зь лекцыяй аб беларусізацыі 20-х гадоў. Многім спадабалася і, відаць, таму вырашылі мяне прыняць у якасьці ганаровага сябра гэтага клюбу. Што-ж, вялікі дзякуй! Што будзе ў маіх сілах, дапамагу клюбу, бо тое, што ён робіць для агульнабеларускай справы, мае сёньня і будзе мець заўтра вялікае значэньне.

Сёлета,у канцы сакавіка споўнілася дзесяць гадоў зь дня заснаваньня клюбу «Спадчына», якім бязьменна кіруе апантаны нацыянальнай ідэяй Анатоль Белы. Складаным быў у клубу пачатак. Ідэалягічныя службы партыі камуністаў не дапускалі, каб ствараліся нейкія непадкантрольныя ёй грамадзкія арганізацыі, няхай сабе і культурна-асьветніцкага пляну, дзе маглі-бы зьбірацца людзі, каб пагаварыць пра гісторыю і культуру роднага краю, абмеркаваць яго далейшы лёс. А ішлі да Анатоля Белага людзі вельмі ўлюблёныя ў Бацькаўшчыну —навукоўцы, мастакі, пісьменьнікі, журналісты, педагогі, навучэнцы. Многія зь іх дзеляцца сваімі ўспамінамі на старонках кнігі «Спадчына Спадчыны», якую нядаўна выпісьціла ў сьвет Беларускае выдавецтва таварыства «Хата», створанае дзякуючы клопатам журналіста Валерыя Санько. Паколькі кніга, несумненна, выкліча зацікаўленасьць ня толькі ў сяброў клюбу, але і ва ўсіх, хто заклапочаны станам нашага духоўнага Адраджэньня, дазволю спыніцца на больш адметных матэрыялах.

Пачынаецца кніга вершам народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна «Слыннаму клюбу «Спадчына» на добрыя ўгодкі».

Паводля яго слушных словаў:

*Спадчына—*<br>*Гэта не штосьці такое*<br>*Смачнае,*<br>*Гэта тое сьвятое,*<br>*Якое па часе страчана,*<br>*Што вернута быць павінна.*

Як спадчынцы вярталі «па часе страчанае», пастараўся прыгадаць амаль кожны, хто быў тады ў ліку першых сяброў ці наведвальнікаў клюбу: Мікола Ермаловіч, Анатоль Грыцкевіч, Сьвятлана Белая, Ігар Курыцын. Найбольш цікавыя факты знойдзе чытач аб гэтым у артыкуле Сьвятланы Белай, якая сёньня ў Кліўленьдзе выдае часопіс «Полацак». Проста дзіву даешся, колькі энэргіі, смеласьці й энтузіязму патрабавалася ад спадчынцаў, калі яны ладзілі сваю працу ва ўмовах амаль поўнага непрызнаньня «Спадчыны» з боку мясцовых **партыйных** і савецкіх органаў. Не было па-

разуменьня зь імі нават і тады, калі праводзіў клюб «Спадчына» 150-гадовы юбілей зь дня нараджэньня Кастуся Каліноўскага і 100-гадовы —Максіма Багдановіча.

Несумненным подзьвігам клюбу «Спадчына» зьяўляецца адкрыцьцё ў траўні 1994 г. у Яраслаўлі помніка Максіму Багдановічу.

Цікавыя публікацыя сабраны ў раздзеле пад назвай «Эсе з нагоды». У ім Анатоль Белы апавядае пра тое, што яшчэ і сёньня ня кожнаму вядома, а менавіта пра прыняцьцё Закона аб мовах. А пазнаёміў з гэтым спадчынцаў пісьменьнік Іван Чыгрынаў у час сустрэчы зь імі у лютым 1991 г. Зь яго вуснаў прагучала вельмі адмоўная характарыстыка ў адрас І. Кеніка, аднаго з тых двух дэпутатаў Вярхоўнага Савету БССР, якія не згаджаліся ўключаць праэкт Закона аб мовах на разгляд сэсіі: *«Кенік І.А. зьяўляецца старшынёй Мазырскага райвыканкама Па нацыянальнасьці паляк. Мы яго п[illegible]алі ў камісію як прадстаўніка пол[illegible]ага народу ...Ён жа ўвесь час у ск[illegible]дзе камісіі нават не паклапаціўся аб сваім польскім народзе, які таксама чакаў абароны сваіх нацыянальных інтарэсаў, сваёй мовы. Тым больш, што вельмі варожа ставіўся ён да надзённых праблемаў беларускага народу, да яго культуры і мовы»* (с.17)

Я не выпадкова прывёў гэтую цытату. Чытачы і сёньня, і заўтра павінны ведаць, па які бок сучаснага беларускага Адраджэньня стаялі і стаяць нашыя палітычныя дзеячы. Не сакрэт, што многія зь іх вельмі актыўна выступаюць супраць яго ў вуснай форме, але стараюцца не пакідаць ніякага сьледу на пісьме, каб не трапіць у сьпіс пасьлядоўнікаў сумнавядомага ў нашай гісторыі М.Мураўёва.

У гэтым-жа артыкуле А. Белага, чытач, напэўна, знойдзе для сябе шмат невядомай інфармацыі аб той напружанай сытуацыі, якая склалася на сэсіі па віне старшыні Вярхоўнага Савету БССР Івана Навуменкі пры галасаваньні ўнесенай дэпутатам Пятровічам папраўкі да ўжо прынятага Закону аб мовах, згодна зь якой рускай мове надаваўся такі-ж «статус», як і беларускай. Чатыры разы ставілася пытаньне аб перагаласоўцы і, нарэшце, вынік: за наданьне беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай у краіне прагаласавалі 326 дэпутатаў, супраць —40, устрымаліся —14.

*«Мы адчувалі такое напружаньне, —успамінаў Іван Чыгрынаў на сустрэчы са спадчынцамі,—што ў многіх сьвядомых дэпутатаў калаціліся рукі, дрыжэў голас. Я ня ведаю, што яшчэ можа быць большае ў жыцьці чалавека, чым прыняцьцё такога закону.»* (18)

Ад часу свайго заснаваньня і да сёньняшняга дня ў клюб «Спадчына» ўваходзяць таленавітыя прадстаўнікі навуковай і мастацкай інтэлігенцыі. Адказныя за выпуск зборніка правільна зрабілі, што далі магчымасьць усім ім праявіць сваю творчасьць на старонках «Спадчына «Спадчыны».

Ахвотна выкарыстаў гэтую нагоду Валер Санько, паведаўшы чытачам пра зусім неардынарную падзею: пажар у 1967 г. у памяшканьні Слуцкага народнага суда і вядзеньне сьледства па гэтай справе, якое зусім не вызначалася дэмакратызмам.

У галіне паэзіі выступілі ў зборніку Рыгор Барадулін, Сьвятлана Багданкевіч, Лявон Эмеліт, Яўген Гучок, Ігар Курыцын, Аліна Мядзьвецкая, Павел Марціновіч, Галіна Вайтовіч, Уладзімір Новік. Кожны зь іх піша пра тое, што лічыць самым адметным у гісторыі роднага краю, клюбу «Спадчына» ці ва ўласным жыцьці.

Так Сьвятлана Багданкевіч сваімі паэтычнымі радкамі прыцягвае ўвагу чытача да Першага зьезду беларусаў сьвету, што праходзіў у Менску ў ліпені 1993 г.

*Беларусь—эмігрантка, выгнаньніца,*
*Белым прывідам ходзіць па сьвеце—*
*То ў далінах туманіцца раніцай,*
*То ў нябёсах нясецца, як вецер,*
*Белай птушкай, а то—белым воблакам*
*Белым сьнегам —ільняным абрусам*
*Ляжа, сэрца кранаючы водгукам*
*Тым, хто помніць сябе беларусам.*

Павел Марціновіч зьвяртаецца у сваім вершы — да нялёгкага трывожнага лёсу самога клубу «Спадчына», раскрываючы гэта ў такіх словах:

*Музэй быў «Спадчыны» ў Сляпянцы,*
*Дарма! благія меў ён шанцы:*
*Як мову родную матулі,*
*Музэй аж пад зямлю запхнулі.*
*Ды ладзіць «Спадчына» выставы*
*Невынішчальнай крэўскай славы.*

Лявон Эмеліт вяртае кожнага з нас у той запаветны куточак спадчыны, які завецца бацькоўскім домам.

*Я зноў на вулачцы знаёмай,*
*Вось родны мне бацькоўскі дом.*
*Акно, зацягнутае стомай,*
*І лаўка тая-ж пад вакном,*
*Амшэлай брамы лік шчарбаты*
*І расквітнелы буйна бэз.*
*Мой дом ужо, як грыб гарбаты,*
*Ён яшчэ больш у дол улез.*

Вершы Уладзіміра Новіка прымусіць кожнага зьведаць радасьць ад уваскрэсеньня ў памяці той узьнёслай атмасфэры, якая панавала ў Яраслаўлі пры адкрыцьці помніка нашаму славутаму песьняру Максіму Багдановічу.

*Цэлы тыдзень гудзе горад:*
*Інтэрв'ю, прыёмы, лазьні...*
*Скача лес і скачуць горы.*
*Не раўнуючы, як блазны.*
*Яраслаўскія жанчыны*
*Сьцелюць ружамі дарогу*
*Дык зь якой гэта прычыны*
*Карнаваляць да зьнямогі?*
*Амбасадар зь Беларусі*
*Завітаць сюды меў гонар!!!*

Яўген Гучок разважае аб каханьні і закаханых.

*Што-ж такое каханьне?!*
*Гэта— калі нахілілася неба*
*і чалом да зямлі даткнулася.*

* * *

*Састаў каханьня*
*Гранічна просты—*
*Два сэрца на далоні Бога.*

Не забыліся складальнікі зборніка пра тых, каго цікавіць «белыя плямы» гісторыі Беларусі. Што гэта так, вынікае з артыкула ў Ігара Курыцына «У прададзень першай сусьветнай...» і Генадзя Ланеўскага «Беларусь—шаноўная, сьвятая, вольная, чыстая...».

Зь першай публікацыі чытач даведаецца, што дарэвалюцыйная Беларусь зусім не зьяўлялася самым адсталым у эканамічных адносінах рэгіёнам Расейскай імпэрыі, што пацьвярджаецца прывядзеньнем перакануўчых статыстыка-эканамічных дадзеных аб разьвіцьці прамысловасьці і сельскай

гаспадаркі. Тагачасны стан эканомікі Беларусі аўтар не без падставаў параўноўвае з Фінляндыяй і не памыляецца, калі сёньняшнія надзвычай кантрасныя адрозьненьні паміж імі тлумачыць палітычным фактарам: заваявачьнем апошняй неўзабаве пасьля кастрычніцкага перавароту ў 1917 г. дзяржаўнай незалежнасьці.

Правільныя ў многім, новыя погляды на самыя адмысловая старонкі беларускай гісторыі знаходзім і ў артыкуле Генадзя Ланеўскага. Сказанае найперш датычыць пэрыядызацыі, у чым такі працяглы час вельмі грашыла беларуская афіцыйная гісторыяграфія, а таксма наяўнасьці балцкага субстрату ў беларускім этнасе, міфалягічнага характару адзінства Кіеўскай Русі і старажытнарускага народу, прызнаньня «Залатога веку» ў гісторыі Беларусі, прычым заняпаду беларускай культуры ў час, калі наш край уваходзіў у склад фэдэратыўнай дзяржавы Рэчы Паспалітай і Расейскай імпэрыі.

У канцы кнігі зьмешчаны нотныя запісы рамансаў і песьняў нашага сучаснага кампазітара Галіны Смоляк на словы паэта ў беларускага замежжа Рыгоры Крушыны, Сяргея Ясеня, Міхася Каваля, Масея Сяднёва, Натальлі Арсеньневай, Уладзіміра Клішэвіча, Анатоля Бярозкі.

Сама Галіна Смоляк так піша: «Гэты цыкл песьняў і рамансаў я прысьвяціла Першаму зьезду беларусаў сьвету (ліпень 1993). Дзе-б ні быў чалавек, існуе непарушная сувязь паміж ім і роднаю зямлёю, сувязь сьвятое любві... Таму ўсе успаміны пра родны кут гучаць як малітвы» (с.106).

Вельмі дарэчы ў зборніку артыкул «Хранaлёгія «Спадчыны», які напісаў сам старшыня клюбу «Спадчына» Анатоль Белы. Дарэчы таму, што ніводзін з артыкулаў-успамінаў таго ці іншага сябру клюбу ня можа паводле ахопу і дакладнасьці асьвятленьня падзеяў стаць на адзін узровень з той інфармацыяй, якой валодае па дадзеным пытаньні сам кіраўнік гэтага культурна-асьветніцкага таварыства. Толькі куды больш лагічным было-б зьмясьціць даны артыкул не ў канцы кнігі, а ў пачатку, каб у чытача мелася магчымасьць адразу даведацца пра асноўныя вехі ў гісторыі клюбу «Спадчына».

Нялёгкімі, пакручастымі, затое перспектыўнымі былі шляхі клюбу «Спадчына» ў першым дзесяцігодзьдзі. Ладзіць сустрэчы яму, думаю, больш не давядзецца ў сутарэньнях другарадных, закінутых дамоў, у службовых памяшканьнях беларускай сталіцы. Такі гаротны час мінуў беззваротна. Але разьлічваць, што крочыць давядзецца ў будучае толькі добра заасфальтаваным гасьцінцам, няма аніякіх падставаў. Падзеі апошняга часу сьведчаць, што ў Беларускага Адраджэньня вельмі мала надзеі на дзяржаўную падтрымку. Яна па-ранейшаму будзе абапірацца на ініцыятыву грамадзкіх культурна-асьветніцкіх арганізацыяў тыпу клюбу «Спадчына». Ад шчырага сэрца зычу клюбу вялікіх посьпехаў у бескарысьлівым і самаахвярным служэньні беларускаму нацыянальнаму ідэялу. Можаце разьлічваць і на маю падтрымку.



# Лірнік краіны ветлай

Антон Адамовіч

**Міхась Дуброўскі**, гадунец таго-ж Брусаўскага Інстытуту, што й Дубоўка ды Якаўчык, найбольш знаны быў нам зь ягонага перакладу „Баляды Рэдынгскай турмы" Аскара Уайльда (Oscar Wilde), выданага за пару год перад тым „Маладняком" як адзін зь першых нумароў ягонае „Кніжніцы" (ёсьць такоама ў Славянскім аддзеле Нью-ёркаўскае публічнае бібліятэкі). Нам вельмі падабаўся тады гэны пераклад — фактычна, першы пераклад больш-менш даўжэйшае рэчы ня толькі з англамоўнае, але й наагул з эўрапейскае паэзіі пабеларуску. Некаторыя радкі нек самі сабою закарбоўваліся ў памяці, часта цытаваліся намі дарэчы й недарэчы, проста так, — а ў мяне заселі аж дагэтуль, як прыкладам:

Ступала банда сарабандай,
Як мётлы на таку,
Рабіла рэзка арабэскі
Завеяй на пяску.
Марыянэтак зь піруэтам
Цікавіла хадзіць...

Сам Дуброўскі аднак свой бясспрэчны, а мо й немалы паэтычны талент ня толькі закапаў у зямлю, а проста затваніў у балота, жыцьцёвае балота... Працаваў ён тады „упраўдомам" — адміністратарам аднаго з жылых дамоў Масквы — пасада выгодная, найбольш магчымасьцямі пабочных і нелегальных заработкаў у вабставінах пэрманэнтнага жыльлёвага крызысу ў саветах, а асабліва ў Маскве — далёкая аднак і ад паэзіі і ад чаго-колечы духовага наагул...

Дык у Дуброўскага мы й павячэралі, ды яшчэ як, мо нат і занадта, і заначавалі, бо дзеля познага часу ўжо ня было чым ехаць (здаецца, гэта толькі ў вадным нашым Нью-Ёрку публічны гарадзкі транспарт ня спыняецца, бо ня толькі ў Маскве, але нат у такіх заходніх сталіцах, як Лёндан ці Парыж, ён хоць частку начы, а ня ходзіць). Паважных гаворак, ці „інтермэдыяў", пры вячэры ў памяці нек не захавалася, дый хіба іх ужо й ня было, больш былі хіба звычайныя ў падобных разох і кампаніі анэкдоты. Успамінаецца, што ноч выдалася вельмі парная — цяпер здаецца, што з гэткіх, як найчасьцей тут, у Нью-Ёрку ўлетку, дармо, што ў Маскве тое было, — і дарожны спаў зусім галяком, а ўраньні, сьпяшаючыся, забыўся ніжняе сарочкі, хапіўшыся яе ўжо наступное начы, калі мы вярнуліся да сваё экскурсіі — толькі гэткая дробязь і заваляласся ў памяці ад тых гасьцінаў у Дуброўскага.

Толькі за пару год прыгадалася гэная ноч другою падобнаю начою, а за ёю й „банда сарабандай", і Воран зь „ніколі больш", і Равенскі з альгебраю — але пра гэта крышку далей.

---

Наступны раз я спаткаўся з Равенскім ужо ў 1929 г. улетку. Тады ён прыяжджаў на вакацыі да свайго брата, калішняга загадчыка „Беларускага Рабочага Клюбу", што настаўнічаў пад Менскам. Разам зь ім прыяжджаў накаротка й Дубоўка. Супраца паэты й кампазытара тады была дасягнуўшы свайго ўзвышша — Равенскі пісаў опэру, што мелася стацца першай беларускай опэрай наагул — „Браніславу", на лібрэта, напісанае адмыслова для яго Дубоўкам паводля собскае аднайменнае паэмы, ка-

Заканчэньне. Пачатак у №6( 36)-7-8 (37-38)

гадзе перад тым апублікаванае поўнасьцяй.

Сэнсацыяй тады сталася аднак ня гэтая опэра, яшчэ толькі пачатая, а „Ліпнёвы гімн" Равенскага на словы Дубоўкі, якраз прывезены тады абодвымі з сабою. „Гімн" гэты быў прызначаны да сьвята „вызваленьня Беларусі ад белапалякоў", адзначанага штогоду ў БССР 11-га ліпеня. Дубоўкавы словы былі „ідэялягічна вытрыманымі" — зусім неспадзявана для яго тэю парою — знарочыстая „празаізацыя" гэтых словаў, часта ў гэтага паэты прыхватак у падобных выпадках, да тупаватых на такія рэчы партыйных „трымальнікаў ідэялёгіі" не даходзіла. А ўжо ў нотах Равенскага пазнацца на чым-небудзь, нат проста рашчытаць іх, было зусім не для іх наагул. Дык „Гімн" быў прыняты імі з радасьцяй, з надзеяй, хоць і неспадзеўнай, на пачатак нейкай „перабудовы" пракуднага паэты ды выданы разам з нотамі адмысловым дадаткам да сьвяточнага нумару аж самой газэты „Зьвязды", гэтай менскай „Праўды" (праўда, тут „падпёр" і „прапхнуў" яго наш хлопец, кагадзе якраз афармлены ў сяброх „Узвышша", крытык Фэлікс Купцэвіч, тады ледзь не заступнік рэдактара, утаямнічаны ў справу Дубоўкам).

Адылі, калі „Гімн" быў аддрукаваны й масава распаўсюджаны із „Зьвяздою" й так, зь месцаў, дзе спрабавалі выконваць яго, адразу-ж найшлі „трывожныя сыгналы": музыка Равенскага, выявілася, ані не перадае спадзяванае радасьці „вызваленьня ад паноў", а як-бы й зусім наадварот — нейкі нячуваны цяжар пачуцьця тых, што праз гэнае „вызваленьне" пачулі сябе як ускочыўшы з агню ды ў прысак... „Гэта ня гімн перамогі, а нейкі стогн, усёдна, як рабоў на будаўніцтве пірамiды эгіпэцкага фараона Хеопса", — пісалі з аднаго месца, як пераказваў Купцэвіч. Было нам тады ці мала сьмеху каля ўдаласьці гэтага „фартэлю" паэты й кампазытара, які мусілі проста пракаўтнуць, не аблізваючыся, ягоныя цэнзары, рэдактары й выдаўцы, бо не выпадала-ж уздымаць нейкі вэрхал, расьпісваючыся тым самым у собскай неабачнасьці й наагул небарачнасьці. Сьмех-жа ў нас тымі часамі ўжо рабіўся ўсё больш і больш рэдкім, а гэты хіба й стаўся зусім рэшнім — апошнім...

Ганарар за „Гімн" аўтаром усё-ж выплацілі, але Дубоўка, атрымаўшы яго на сябе й Равенскага, ня меў ужо часу завесьці яго гэтаму апошняму на месца ягонага адпачынку ў брата, мусіўшы варочацца сьпешна ў Маскву, дык папрасіў мяне зрабіць гэта. Праветрыцца зь Менску ў недалёчкія Карзюкі (дарэчы, апяныя калісь Купалам у вершы „У Карзюкох над Сьвіслачай" у зборніку „Шляхам жыцьця") да братоў Равенскіх, аднаго зь якіх ня бачылася ад прыемнай успамінамі малецтва пары „Беларускага Рабочага Клюбу", загадванага ім, — было адно ў вахвотку, і я адразу-ж падаўся туды.

Грошы Равенскаму выпалі вельмі дарэчы — абодвы браты былі якраз у пэрыядзе скрайняй нястачы. Брат-гаспадар, як селавы настаўнік, наагул зарабляў нейкія сьлёзы, а сям'і — як бобу, брат-госьць, хоць і „дзяржаўны стыпэндыят" і бесьсямейны, але жывучы ў самой Маскве, наўдачу ці жыў шмат замажней. „Палац", у якім жыў і гаспадараваў першы, а гасьцяваў другі, ня меў нат падлогі, а проста земляны ток — хатка, адно што ня курная, а так — селавая зь бяднейшых, цесная, цёмная, гнілая. Гаспадар і сям'я і з вопраткі і з выгляду — таксама сяляне зь бяднейшых і то вельмі, госьць хоць і ў гарадзкой маскоўскай кашулі, а босы таксама, порткі ў латах, хіба гаспадаровыя-братавыя...



У гэткіх абставінах я зь ня зусім ужо й спадзяванымі грашыма-ганарарам за пракуду — ужо ня мог ня быць мілым гасьцём. Успаміны-ж з пары „Беларускага Рабочага Клюбу", ад якіх пачалася й каля якіх найбольш і вялася гутарка, рабілі гэтую гасьціну запраўды мілаю, і, здаецца, для ўсіх. Цэнтрам гаворкі быў гаспадар, кампазытараў брат і калішні загадчык клюбу; відаць было, што для яго, апрача ўсяго, гэта была нагода гутаркі ня будзённа-бытавое ці службова-прафэсійнае, рэдкая хіба нагода ў ягоным шэрым жыцьці больш гарапашніка-селяніна, як настаўніка, і ён цешыўся ёю й стараўся выкарыстаць як мага, ня вельмі й даючы іншым дайсьці да голасу. Пастарэлы ды, як кажуць, змужычэлы, з загрубелым тварам і рукамі, зь ня вельмі акуратна, саматужна хіба, пастрыганымі валасамі, смаляна-чорнымі з ладнай просівяй, асабліва ў касмыкаватай барадзе, ён нагадваў кагосьці, толькі адразу ня прыходзіла, каго.

Дык да гутаркі з самым кампазытарам у нас дайшло тады, калі ён выйшаў зы мною правесьці крыху (крыха гэтая выйшла мала не да Менску). Тут я найперш пераказаў яму рэакцыю на „Ліпнёвы гімн", і мы яшчэ раз пасьмяяліся тым сьмехам рэшнім. Асабліва спадабалася яму супастава зь Хэопсам. „А ведаеце, — казаў, — мне нат пачынае здавацца, што калі я перакладаў Уладзікаву ідэю на ноты, перада мною якраз і быў гэты вобраз... Фараоны-ж, праўда-ж, фараоны".

Аднак, ня гэтыя жарты й пракуды, а „Браніслава" апанавала тады нашую гутарку — мяне не магла ня цікавіць найбольш гэтая першая нашая опэра, ён-жа якраз жыў тварэньнем яе, кагадзе якраз, як тут прызнаўся, скончыўшы першы акт. На маё пытаньне, як працуецца яму над апэрай, мне тут-жа, падарозе ў кірунку да Менску, і быў з памяці напяяны гэты акт — зь ім і выйшла, што праводзіны мяне мала не давялі да Менску.

Опэра мелася пачынацца арыяй Лірніка да сялянаў — дасюль засталіся ў памяці найпершыя ейныя словы, напісаныя паэтам адмыслова для лібрэта (у выдрукаваным тэксьце паэмы ні гэтых словаў, ні самое постаці Лірніка наагул ня было):

Дабрыдзень вам у згодзе і парадку!
Жадаю долі радаснай і сьветлай,
Уроды ў полі і прыплоду ў статку
Жадаю вам і ўсёй краіне ветлай!

А запалі так гэныя словы так ня толькі,як першыя — з найпершым, наймацнейшым заўсёды для ўсіх моцных рэчаў уражаньнем — а таму найбольш, што чуючы іх із вуснаў самога створцы музыкі да іх і гледзячы на яго самога, паўстала перада мною ўпяршыню тады ягоная фігура як постаць якраз такога во Лірніка — лірніка „краіны ветлай" — постаць, у вобразе якое жывець ён у ўяве й памяці маёй і дагэтуль — ды што ў маёй памяці-ўяве, а ці ня ў памяці самое гісторыі мусіў-бы жыць...

І сама „краіна ветлая", ветлы ейны народ „у згодзе і парадку", дзеля гэтае сваё ветлівасьці лёгка апаноўваны ўсялякімі „фараонамі" гісторыі й катаваны, а баронены ў славе толькі вылучнаю якою Браніславаю — гэраічнаю помстаношаю зь ягоных шароў — паўсталі тады перада мною ў гуках, калі й ня „радасных", дык запраўды сьветлых, крыштальных,

празрыстых — як ніколі датуль у гэтага кампазытара. Тое, што ўсё гэта мусіла назаўсёды прапасьці для ўсіх, для нашай „краіны ветлай" (опэра была скончаная за колькі месяцаў, калі якраз пачаўся сталінскі пагром „беларускіх нацдэмаў", у вабставінах якога яна ня толькі не магла дастаць ходу, але й проста тэкстуальна захавацца) — адзін (а ці-ж з малога ліку?) з найцяжэйшых камянёў на сумленьні „фараонаў", і ніякія аблыжныя адкліканьні да „культу асобы" не маглі-б тут зьняць хоць крыху зь ягонага цяжару.

Калі я разьвітаўся з кампазытарам ужо каля Менску й азірнуўся яшчэ раз на постаць гэтага Лірніка, пакуль не засталучыла яшчэ яе паваротка дарогі — бліснула мне раптам, каго гэта мне нагадваў ягоны брат пэўна-ж, Каруся Каганца на адзіным зь ведамых ягоных здымкаў — паэту мініятурна - манумэнтальнага, каб гэтак сказаць, „Кабзара":

Ой, вецер шуміць, ой, вецер гудзе,
А цераз поле чалавек ідзе...

Цераз поле йшоў, хаваўся ўжо — Лірнік, лірнік — кабзароў брат, сам ня менш Кабзар (то-ж бо Язэп Лёсік „знатуралізаваў" быў і таго Каганцовага „Кабзара" ў „Лірніка" ў сваёй чытанцы „Наша крыніца", на якой даводзілася калісь вучыцца).

Постаць ягоная, павярнуўшыся яшчэ раз і ветла памахаўшы рукою, прапала з вокагляду — тады яшчэ ня вычувалася нат, што надоўга.

Але-ж, гэта было нашае апошняе спатканьне зь Міколам Равенскім у савецкіх абставінах. Пра часы па гэтым — найбольш ужо часы несавецкія для нас — другім і ўжо апошнім разам.

ДА 100-ГОДДЗЯ
З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

# АЛЕСЬ ГАРУН
## БЕЛАРУСКІ ПАЭТ-РЭВАЛЮЦЫЯНЕР
## (1887 - 1920)

*у чатырохлецце „Нашай Нівы"*

Ты, мой брат, каго зваць Беларусам,
Роднай мовы сваёй не цурайся;
Як не зрокся яе пад прымусам,
Так і вольны цяпер не зракайся.
Ад дзядоў і ад прадзедаў, браце,
Гэта скарб нам адзін захаваўся, —
У сялянскай аграбленай хаце
Толькі ён незабраны астаўся.
У старыну Беларус не падданы,
Гаспадарыў, быў сам над сабою
І далёка у свеце быў знаны
За літоўскай і ляшскай зямлёю.
Але час прамінуў, і нядоля
На народ, як бы камень, звалілась
Беларуская слава і воля
Адыйшла, адцвіла, закацілась.
Не змяняючы шэрай апраткі,
Працаваў ты, як вол, гаратліва,
А у хаце тваёй недастаткі,
А на ніве тваёй неўрадліва.
А чаму? Ты няздольны, ці хворы,
Ці благі гаспадар, ці п'яніца?
Мусіць не! Бо і іншым у пору
У цябе гаспадарыць навучыцца.
Светлы розум твой, брат, але дзетак
Ад цябе, як і ўсе, адыралі
А на бацькаўскі родны палетак
Працаваць памагаць не пушчалі.
Хто хацеў, той і смеў рабаваці
Без прыпросу з'яжджаліся госці —
Абдзіраць, аб'ядаць, апіваці
І крышыць гаспадарскія косці.
Можа б ты і памёр і загінуў,
Каб не вечная мова Баяна
Хто ж быў добры, яе хоць пакінуў?
Як жа так, што яшчэ не забрана?
Бо што бачылі госцікі герцы —
І зямлю, і лясы, і кілімы, —
Усе забралі, а мову у сэрцы,
У сваім сэрцы хавалі-неслі мы.
Дык шануй, Беларус, сваю мову —
Гэта скарб нам на вечныя годы;
За пашану радзімаму слову
Ушануюць нас браццы народы!

*Алесь Гарун*



# Восень

Словы Алеся Гаруна — Музыка Міколы Равенскага

**Пасольства Рэспублікі Беларусь у Злучаных Штатах Амерыкі**



**Embassy of the Republic of Belarus to the United States of America**

**January 19, 1995**

**PRESS RELEASE**

## PRESIDENT LUKASHENKO ON POLITICAL UNIFICATION WITH RUSSIA

As reported by BELINFORM, Belarusian President Alexander Lukashenko declared in an interview, published yesterday by Belarusian daily "ZVYAZDA", that Belarus' political unification with Russia is unrealistic now and the Parliaments of the two countries will not agree to such a step. President Lukashenko stated that even much less complicated economic cooperation problems between Russia and Belarus are being resolved with great difficulty.

President Lukashenko did not rule out an idea to hold a joint session of the Belarusian and Russian Parliaments, obviously to consider other issues, and said he was ready to make a statement at such a session should it ever take place.

## BELARUS JOINS PARTNERSHIP FOR PEACE

At a ceremony in Brussels on January 11, 1995 Minister for Foreign Affairs of the Republic of Belarus Uladzimir Syanko signed Belarus into the NATO's Partnership for Peace.

The accession of Belarus, which is strategically located at the crossroads of Central Europe, to the Partnership had been a subject of considerable debate on the compatibility of the NATO initiative with Belarus' aspiration towards neutrality as reflected in its new Constitution as well as on financial implications of participation.

Belarus has now pronounced itself ready for cooperation with the NATO.



***Пасольства Рэспублікі Беларусь у Злучаных Штатах Амерыкі***



***Embassy of the Republic of Belarus to the United States of America***

1619 New Hampshire Avenue, N.W.
Washington, D.C. 20009

Phone: (202) 986-1604
Fax: (202) 986-1805

**February 24, 1995**

**PRESS RELEASE**

## PRESIDENT YELTSIN'S VISIT TO BELARUS

President of the Russian Federation Boris Yeltsin paid an official visit to the Republic of Belarus on February 21-22, 1995 at the invitation of President Alexander Lukashenko.

President A.Lukashenko conducted detailed negotiations with President B.Yeltsin. They discussed key issues of Belarusian-Russian cooperation and further strengthening of friendly and good-neighborly relations between the two countries.

A.Lukashenko and B.Yeltsin signed the Treaty on Friendship. Good-Neighborly Relations and Cooperation between Belarus and the Russian Federation. which provides a qualitatively new basis for close partnership relations and determines basic parameters of further development of mutually beneficial cooperation between the two sovereign states in various areas.

The Presidents also signed a number of other agreements, among them Intergovernmental Agreement on cooperation in the group of the member-states to the Open Skies Treaty, the Agreement on the management of the customs services of the two states, the Treaty on the joint efforts on guarding Belarus's state border and Intergovernmental Agreements on cooperation in tourism, culture, education and science.

Both Parties believe that economic cooperation should be pursued more vigorously. Belarus and Russia are mutually interested in maintaining open economic space and in implementing agreements aimed at setting up economic integration.

The Presidents also had extensive discussions on the issues of setting up new European and global security structures; strengthening the role of the OSCE as well as on peaceful settlement of crisis situations in the post-Soviet space and in the rest of the world. The issues related to both Belarus and Russia joining the NATO Partnership for Peace program were also discussed in this context.

The Parties also discussed bilateral cooperation issues in scientific, cultural, military, law enforcement and other areas. Both Parties showed willingness to expand and develop cooperation between Belarus and Russia in these directions.

The exchange of opinion on international problems confirmed readiness of both Parties to have further coordination of actions on urgent issues in this sphere and their willingness to render assistance to each other in the areas of their interest.

ганьне не закончылася. Таму прыклад мужнасьці, гераізму, вялікага патрыятызму слуцкіх змагароў і надалей будзе натхняць беларусаў на змаганьне з нашымі ворагамі.

Пасьля выступленьня Янкі Ханенкі Кастусь Калоша зачытаў прывітаньні, якія даслалі у адрас беларусаў Кліўленда беларускія арганізацыі з Бацькаўшчыны й Амэрыкі.

Трэцяй часткай сьвяткаваньня быў канцэрт, які падрыхтавала з хорам «Васілёк» Вольга Лукашэвіч. Пад акампанімэнт Фёдара Паўлаўца хор «Васілёк» выканаў песьні «Родны край», «Слуцкія ткачыхі», «Лясная песьня», «О, Беларусь мая шыпшына». Закончылася сьвяткаваньне 74-й гадавіны Слуцкага Збройнага Чыну выкананьнем ўдзельнікамі ўрачыстасьці беларускага нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

## Віншуем!

Выбары новага камітэту адбыліся на Полацку. У склад камітэту ўвайшлі Янка Ханенка —старшыня, Віктар Лукашевіч —заступнік старшыні, Вера Валюкевіч—сакратар, Дэніс Яраховіч—скарбнік, Анатоль Лукьянчук, Віктар Патапенка, Пол Мельнік —сябры. Часопіс «Полацак» віншуе новы камітэт зь ізбраньнем і зычыць посьпехаў і плёну ў працы

## Навагодня-калядная хроніка.

Па традыцыі Новы 1995 год кліўлендцы сустракалі на Полацку з сваімі сябрамі ўкраінцамі, расейцамі, амэрыканцамі. Усім прыйшлася да спадобы прыгожа афармленая заля, якая зіхацела ад разнакаляровых срабрыстых шароў і мішуры, і ялінка, упрыгожаная цацкамі і ліхтарыкамі. Сучасныя рытмы танцавальнай музыкі стваралі прыўзьняты настрой. Таму пасьля вячэры ногі самі пайшлі ў пляс. Пік весялосьці супаў з 12 гадзінай, калі ўсе напоўнілі кілішкі шампанскім, каб пад удары навагодняга гадзіньніка пажадаць сябрам добрага здароўя, шчасьця і радасьці ў новым 1995 годзе.

У ноч перад Калядамі сабраліся беларусы Кліўленда як вялікая сям'я на сумесную Куцьцю ў падцаркоўнай залі. Сабраліся разам, каб яшчэ раз нагадаць бацькоўскія звычаі, успомніць як іх дзяды і бацькі некалі сьвяткавалі Каляды, каб самім прычасьціцца да сьвятой памяці продкаў. Пасьля вячэрняй службы ўсе спусьціліся ў падцаркоўную залю. Куцьцю, а таксама традыцыйныя стравы падрыхтавалі жанчыны царквы Жыровіцкай Божае Маці. Добра згатаваная Куцьця ва ўсе часы давала веру ў шчасьлівы новы год. Таму жанчыны асабліва стараліся, рыхтуючы яе на агульны стол. І сапраўды, смачная выйшла Куцьця, прыйшлася да спадобы ўсім. Таму добрым атрымаўся імправізаваны канцэрт калядак, які прасьпявалі кліўлендцы, заклікаючы Добры Вечар Шчодры Вечор быць добрым і шчодрым для кожнай сям'і ў новым 1995 годзе.

Навагодняя ялінка заўсёды самае доўгачаканае сьвята для дзяцей. Зь няменьшай цікавасьцю чакаюць яго дзядулі і бабулі, якія ужо загадзя падрыхтоўваюць падарункі для сваіх унукаў. Навагодняя ялінка 1995 году, якая рабілася 8 студзеня 1995 г. у царкве Жыровіцкай Божае Маці была ня выключэньнем. Павіншаваць маленькіх прыйшоў Дзед Мароз, ролю якога выканаў Майкал Дунец. Харысты таксама зрабілі падарунак маленькім. Прыгожы канцэрт зь беларускіх і амэрыканскіх калядак вельмі упрыгожыў сьвята, на якім было многа прысмакаў, сьмеху, усьмешак і, пэўна, падарункаў.



Грамадзка-асьветніцкі альманах

# „Спадчына“

Ізборнік матэрыялаў клюбу

Алесь Цыркуноў

Беларускае выдавецкае Таварыства «Хата»




Менск
1994